## ЗЬМЕСТ.

### 3-я Ўсебеларуская Оргнарада спажывецкай коопэрацыі.



### Афіцыйны аддзел.



### Консультация.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43.

№ 6-7 | 5 сьнежня 1928 г. | № 6-7

## *3-я ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ОРГНАРАДА*

*28/IX—1/X 1928 г.*

### Становішча і асноўныя задачы організацыйнай работы спажывецкай коопэрацыі БССР.

**Даклад тав. Хаскіна.**

Таварышы! Свой даклад я думаю падзяліць на 2 часткі, прыкладна, у такім парадку: па-першае, аб становішчы і недахопах у нашай працы да 3-й Ўсебеларускай Оргнарады і па-другое, аб усіх далейшых задачах у галіне організацыйнай, грамадзка-масавай працы, якую мы лічым неабходным вызначыць на бліжэйшы год нашай работы. Мне думаецца, што такая ўстаноўка ў гэтым пытаньні дасьць магчымасьць, па-першае, зрабіць больш дэтальны аналіз агульнаму пляну нашай работы, больш крытычна аднесьціся да тых асобных недахопаў об'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, якія маюць мейсца ў нашай працы і, па-другое, больш поўна падыйсьці да абгаварэньня пытаньня аб вызначэньні задач на бліжэйшы год нашай работы.

Першае, на чым я хацеў-бы застанавіцца ў некалькіх словах— гэта на агульных адносінах і на тэй агульнай удзельнай вазе, якую займае організацыйная работа ў нашай сыстэме. Мне здаецца, што гэтае пытаньне зьяўляецца надзвычайна важным менавіта таму, што, даючы аналіз агульнай працы сыстэмы спажывецкай коопэрацыі ва ўсіх яе галінах, нам усё-ж прыходзіцца на сёнешні дзень канстатаваць, што пытаньню пастаноўкі работы, разварочваньню організацыйна-грамадзка-масавай работы ўдзялялася яшчэ недастаткова ўвагі ня толькі з боку іншых організацый, але і самімі работнікамі нашай сыстэмы іншых зьвеньняў іншых галін, уваходзячых у агульную сыстэму нашай работы.

Пытаньне ўвязкі організацыйна-масавай работы з агульнай гандлёва-опэрацыйнай работай не атрымала дастатковага ажыцьцяўленьня. Я асабіста магу гэтыя факты падцьвердзіць некаторымі матар'яламі, якія маюцца ў мяне, і тэй агульнай думкай, якую я вынес, праўда, ня зусім за вялікі час работы. У мяне асабіста і ў групы работнікаў організацыйнага апарату існуе, па-мойму, зусім верная думка аб тым, што ў пытаньні ўвязкі організацыйнай работы са ўсёй іншай (гандлёва-опэрацыйнай і г. д.) мы яшчэ не знайшлі агульнай думкі. Мне думаецца, што мы не памылімся, калі скажам на гэтай нарадзе, што з боку шмат якіх работнікаў падыход і ацэнка значэньня організацыйнай работы ў нашай сыстэме зьяўляецца далёка ня тэй, якая павінна быць.

Шмат хто думае, што ўсю організацыйную работу можна весьці ня ў сувязі з агульнай работай сыстэмы. Нават тады, калі мы спрачаемся аб штатах у організацыйным кіраўніцтве, аб асобных адзінках, пра якіх мы гаворым пры пабудове нашых органпаратаў, нават пры размове аб такіх агульных пытаньнях, таксама маем падыход няверны. Вельмі часта асобныя таварышы, якія працуюць у іншых зьвеньнях нашай сыстэмы, асабліва гандлёва-опэрацыйныя, забываюцца, што без разгортваньня, без пашырэньня і паглыбленьня організацыйна-масавай работы не магчыма разьвіцьцё і ўзмацненьне ўсёй сыстэмы. Можна гаварыць аб гандлёвых крамах тады ў меншай меры, чым аб стройнай вялізарнай важнасьці масавай організацыі, якой мы павінны зьяўляцца.

Праўда, ёсьць рад об'ектыўных прычын. Яны, галоўным чынам, па маей думцы, зводзяцца да таго, што мы зараз фактычна скончылі толькі першую стадыю нашага фінансавага і гаспадарчага афармленьня, іначай кажучы, той пэрыяд, калі ўся ўвага накіравана была на гэта і ў меншай меры на разгортваньне організацыйна-масавай і культурнай работы. Але ёсьць і суб'ектыўныя прычыны, неразуменьне і недаацэнка гэтага пытаньня. Я на гэтым пытаньні застанаўлюся для таго, каб на гэтай нарадзе маючым мейсца падобнага парадку тэндэнцыям даць рашучы адпор. Нам трэба раз назаўсёды сказаць, што без разгортваньня організацыйна-масавай работы, без замацаваньня гэтай работы ў далейшым, без яе паглыбленьня мы пасунуць работу па далейшаму ўзмацненьню і разьвіцьцю нашай сыстэмы ні ў якім разе ня зможам. Гэты адпор трэба даць зьверху да нізу: пачынаючы ад Белкоопсаюзу і канчаючы спажыўтаварыствамі; тады задачы, якія перад намі стаяць, намі будуць у значнай меры лягчэй вырашаны.

Пераходзячы да асобных пытаньняў становішча нашай сыстэмы можна сказаць, што спажыўкоопэрацыя, яе работнікі ў галіне організацыйнай пачынаюць разварачваць работу са значна большым посьпехам, чым некалькі год таму назад. Гэта, па-першае, знаходзіць свой адбітак у тым вялізарным тэмпе коопэраваньня, які мы зараз маем. Прычым, коопэраваньне за апошні час ідзе ня толькі пад уплывам прыкладна такога магутнага фактару, як абслугоўваньне пайшчыка таварамі, але і знаходзіцца ў сувязі з непасрэднай дзейнасьцю організацыйнага апарату.

Ва ўмовах БССР у гэтым годзе становішча організацыйна-масавай работы характарызуецца наступнымі данымі. Прырост пайшчыкаў за год па сыстэме спажыўкоопэрацыі БССР складае 175 тыс. чалавек, у сувязі з чым процант коопэраваных гаспадарак за гэты год павялічыўся з 39 проц. да 54 проц. Зразумела, процант яшчэ нізкі ў параўнаньні з сярэднім процантам коопэраваных гаспадарак па СССР, які складае на сёньнешні дзень 65 проц. Аднак, лічба, якая сьведчыць аб павялічэньні проценту коопэраваных гаспадарак з 39 да 54 проц., зьяўляецца бязумоўна вынікам правядзеньня вялікай работы. Да ліку посьпехаў належыць аднесьці дасягненьні ў большай стройнасьці ўсёй організацыйнай працы. У галіне будаўніцтва нізавой сеткі гэтыя дасягненьні выяўляюцца ў іх большай рэнтабельнасьці і плянавасьці. За гэты год лік спажыўтаварыстваў з 652 на 1/X-27 г. зьменшыўся да 584 на 1/X-28 г., г. зн., што мы 68 спажыўтаварыстваў, як ня маючых пэрспэктыў, зьлілі з больш моцнымі. У адносінах пераходу на шматкрамную сыстэму таксама маецца зрушэньне. Лік аднакрам у гэтым годзе скараціўся з 200 да 100.

Гэтыя лічбы гавораць аб нашых дасягненьнях у пытаньні будовы нашай сеткі і яе рэнтабельнасьці. За гэты год мы падышлі некалькі больш шчыльна да пытаньня рацыяналізацыі нашай сыстэмы, у выніку чаго мы маем скарачэньне гандлёвых выдаткаў з 8,74 проц. у 26/27 г. да 7,98 проц. у 27/28 г. Агульная прыбытковасьць сеткі таксама павялічылася. Калі ў 26/27 г. мы мелі 390 тыс. руб. прыбытку,

дык па тых папярэдніх даных, якія мы маем па нізавой сетцы прыбытку за 27/28 год складзе 1.200 тыс. руб. Мы маем дасягненьні ў адносінах рацыяналізацыі самой работы апарату, пацьвярджэньнем чаго зьяўляюцца некаторыя лічбы, прыкладна па частцы нагрузкі работніка. Нагрузка работніка ўзрасла з 13 да 16 тысяч рублёў. У выніку правядзеньня курсу на пайшчыка ў адносінах яго пераважнага гаспадарчага і культурнага абслугоўваньня—гэты год даў 1.700 т. руб. агульнай сумы паявых капіталаў; павялічыўся і сярэдні пай, які вырас з 2 р. 73 к. да 5 р. 58 к. на 1/X 28 г.

Гэта, аднак, не азначае, што мы можам здаволіцца гэтымі дасягненьнямі ў параўнаньні з тым, якія мы сабе ставім у справе паенакапленьня. Усё-ж лічбы, мною памянёныя, пацьвярджаюць вялікі посьпех у рабоце нашай сыстэмы.

Таварышы, мы маем бясспрэчныя дасягненьні ў галіне коопэраваньня беднаты, намі ўцягнута ў коопэрацыю 56 проц. бядняцкіх гаспадарак. 250 тыс. руб. фонду, які ўтвораны намі ў гэтым годзе, былі са збыткам і адпавядаючай забежкай уперад скарыстаны на коопэраваньне беднаты. Аб тых вялікіх недахопах, якія былі ў нашай рабоце, мы будзем яшчэ гаварыць. Ва ўсякім разе падвышэньне проц. коопэраваньня беднаты да 56 проц. у гэтым годзе, рэалізацыя для гэтай мэты звыш. 250 тыс. руб. зьяўляецца пачаткам вырашэньня вялізарнай палітычнай важнасьці задачы ў галіне коопэраваньня беднаты, у галіне ўцягненьня бядняцкай часткі вёскі, інакш кажучы, тэй часткі, якая зьяўляецца апорай у правядзеньні нашых мерапрыемстваў у вёсцы. Разам з тым значна палепшыўся і ўзмацніўся нізавы коопэрацыйны апарат. Партыйнае праслаеньне ў нашай сыстэме нізавога апарату значна ўзрасло: з 23,7 да 31,4 проц. Удзельная вага беднякоў у праўленьнях узрасла з 29 да 34 проц. Гэты ўзрост удзельнай вагі бядняцкіх элемэнтаў у выбарных органах гаворыць аб тым, што мы ня толькі падышлі шчыльна да вырашэньня пытаньня аб узмацненьні ўдзельнай вагі бядняцкіх мас у органах кіраўніцтва і кантролю ў вёсцы, але і пачалі яго вырашаць. На працягу апошніх гадоў дасягнута пэўнае зрушэньне ў галіне масавай і культурна-бытавой работы. Праўда, гэта дзялянка работы зьяўляецца найбольш ураджайнай, найбольш адсталай, але разам з тым якое-колечы зрушэньне, які-колечы інтарэс да работы ўжо маецца, тады, калі некалькі год таму назад гэтага ня мелі; хоць шмат якія работнікі і зараз лічаць, што коопэрацыя, гэта такая арганізацыя, работа ў якой павінна ісьці выключна па шляху забесьпячэньня спажыўца неабходнымі таварамі, што ў справе паенакапленьня, коопэраваньня, асноўны стымул—гэта мата'яльная зацікаўленасьць і, як быццам, іншых стымулаў няма, забываючыся, што грамадзка-масавая і культурная работа ў вёсцы—ёсьць таксама не маленькі стымул у справе коопэраваньня і паенакапленьня.

Дастаткова прывесьці некалькі фактаў з таго, як саюзы глядзяць на культурна-масавую работу, каб упэўніцца, што ўвагі гэтаму важнаму пытаньню няма. Многія таварышы гавораць так: «што вы там хочаце весьці якуюсь грамадзка-масавую работу, культурную і г. д. Не дасі спажыўцу крамніны ці іншых дэфіцытных тавараў, дык ён усё роўна ў коопэрацыю ня пойдзе». Абсалютна памылковы пункт погляду. Я, зразумела, ня зьменшаю значэньне пытаньня матар'яльнай забясьпечанасьці ў справе коопэраваньня, але забывацца аб грамадзка-масавай і культурнай рабоце сярод насельніцтва, не зьвязаўшы гэтыя пытаньні з індывідуальнымі інтарэсамі спажыўца, зьяўляецца няверная пастаноўкай пытаньня. Патрабуецца абсалютнае злучэньне і ўвязка. Вось, таварышы, прыкладна той агульны малюнак, які маецца ў нашай сыстэме.

Некалькі слоў аб тых недахопах, аб тых хворых уражальных мясцох, якія ёсьць у нашай рабоце. Перш за ўсё ў пытаньні коопэраваньня. Тут мы маем такое становішча: па-першае, як агульнае зья-

вышча адставаньне коопэраваньня вёскі ад ступені яе таварнага абслугоўваньня. Я гаварыў аб тым, што мы маем 54 проц. коопэраваных гаспадарак. Разам з тым, ва ўмовах БССР наша сыстэма спажыўкоопэрацыі ў справе здавальненьня вёскі таварамі займае 70 проц. Адсюль, перад намі паўстае задача некалькі больш увязваць пытаньне коопэраваньня з агульным проц. здавальненьня вёскі, яе забесьпячэньня, які прыходзіць праз сыстэму спажыўкоопэрацыі.

Да ліку недахопаў нашай работы належыць аднесьці нераўнамернасьць і адставаньне коопэраваньня ў раёнах дзейнасьці асобных саюзаў. Для характарыстыкі прывяду лічбы: процант коопэраванасьці на 1/X-28 г. ў Дняпросаюзе складае 46 проц., а па БССР—54 проц., у Віцебскім саюзе на 1/X-27 г.—42,2 проц., а на 1/X-28 г.—62,9 проц. Процант коопэраваньня па Гомсаюзу на 1/X-27 г. складаў 49,6 проц., а на 1/X-28 г.—54,3 проц.; рост на 5,7 у той час, як па Віцебскаму саюзу на 20,7 проц. Па БССР рост за год—12,9 проц.

Такім чынам, мы маем вялікую разьбежку ў пытаньні росту коопэраванасьці насельніцтва, у пытаньні самога тэмпу росту. Мне думаецца, што тут прычын шмат, але асноўная зводзіцца не да таго, што Дняпросаюз зьяўляецца новым саюзам, а скарэй усяго, да таго, што тут галоўным чынам пытаньні організацыйнай масавай работы былі недастатковымі, увага гэтай справе ў асобных саюзах значна большая, чым у другіх. У гэтых адносінах у Дняпросаюзе справа пастаўлена некалькі горш.

Да трэцяга моманту ў галіне нашых недахопаў належыць аднесьці пытаньне недастатковапланавага правядзеньня на мяйсцох коопэраваньня беднаты. Нам не ўдаецца дабіцца: 1) планамернасьці ў гэтым пытаньні, 2) поўнага зьнішчэньня ненармальнасьцяў пры яго вырашэньні. Часта прыходзіцца сустракацца з фармальным падыходам да вырашэньня такой вялікай важнасьці задачы. Мы маем факты, калі вялікія сумы па фонду коопэраваньня беднаты скарыстоўваліся без правядзеньня папярэдняй масавай работы, без уцягненьня самой беднаты ў гэтую справу. На справе бывае бюрократычнае афармленьне коопэраваньня беднаты, тым самым сьціраецца ўвесь сэнс грамадзкамасавага палітычнага значэньня гэтага пытаньня.

Ня гледзячы на шматлікія на гэта паказаньні і дырэктывы, гэтыя зьявішчы і да гэтага часу маюць месца. Нашай Усебеларускай Органарадзе трэба будзе завастрыць сваю ўвагу на гэтым моманце і пастарацца ў далейшым яго зьнішчыць. Аб гэтым неабходна зараз гаварыць, паколькі ў галіне коопэраваньня беднаты на будучы год, мы пастаўлены перад задачай уцягненьня 50 тыс. пайшчыкаў, перад задачай коопэраваньня ў бліжэйшыя два гады ўсёй беднаты нашай рэспублікі. Гэтую задачу ня толькі ставім мы. Вы, мабыць, чыталі рэзолюцыю XV партзьезду, дзе яскрава і выразна падкрэсьлена аб неабходнасьці ў бліжэйшыя гады коопэраваць усю беднату, і пагэтаму нашай Оргнарадзе трэба завастрыць усю сваю ўвагу на пытаньнях зьнішчэньня фармальнага і бюрократычнага падыходу пры яе ўцягненьні ў коопэрацыю, пры разварачваньні яе самадзейнасьці.

Мы яшчэ ня маем таго становішча, пры якім бедната мела-б пераважную ролю ў працы данага таварыства, а нам трэба дабіцца, каб удзел, роля самай бяднейшай часткі ў спажыўтаварыстве была відаць, каб яна была відавочна, каб можна было яе адчуваць. Наша задача—у далейшым як-бы ні было, але гэтага дасягнуць. Ці можам мы гэтага дасягнуць? Аб гэтым гаварыць ня прыходзіцца, гэта абсалютна рэальная рэч.

Чацьверты момант у галіне недахопаў трэба аднесьці да слабага разгортваньня коопэраваньня жанчын і моладзі. Пастанова 3-га Сходу Упаўнаважаных Белкоопсаюзу—аб ільготным паі непапулярызавана. Удзельная вага жанчын-пайшчыц на 1/X-27 г. складала 9 проц., а на 1/X-28 г.—толькі 10 проц. Ці можна здаволіцца такім ростам? Вядома, не. Гэта надзвычайна малы рост. У адносінах моладзі справа

абстаіць яшчэ горш. Яе мы маем усяго 3 проц. Для такой вялізарнай організацыі, якую мы зараз сабой уяўляем, аб'яднаючы ў сваіх радох ½ мільёна насельніцтва, не правядзеньне належнай работы сярод жанчын і моладзі зьяўляецца фактам недастатковай сапраўднай кооперацыйнай грамадзкасьці.

Пятае пытаньне, на якім я хацеў застанавіцца, гэта тое, што ў нас грамадзка-коопэрацыйная апрацоўка некоопэраванага насельніцтва, удзел коопэрацыйнага актыву ў вярбоўцы новых пайшчыкаў—разьвіты надзвычайна слаба. Уся работа па коопэраваньні праходзіла, галоўным чынам, пры дапамозе мер эканомічнага парадку і ў большай меры праз непасрэдна-працуючых у праўленьнях, прыказчыкаў і іншых. Але каб у гэтым пытаньні прымала ўдзел актыўная коопэраваная частка насельніцтва,—гэтага мы ня маем. Ці зьяўляецца гэта вялікім недахопам у нашай агульнай рабоце? Вядома, так. Гэта недахоп, які абавязкова трэба зьнішчыць.

Пытаньне растрат у нашай сыстэме пачынае набываць найактуальнае значэньне. Вам, работнікам коопэрацыі, асабліва старэйшым, у дастатковай меры вядома, якую вялікую работу мы ў мінулым годзе разгарнулі ў галіне барацьбы з растратамі. Якія-колечы вынікі ўсё-ж былі. Разам з тым, ці зьяўляецца гэта таму, што мы гэты год былі асабліва заняты пытаньнем гаспадарчага парадку, ці што супакоіліся некаторымі дасягненьнямі тэй кампаніі, якая была праведзена ў мінулым у галіне растрат; як гэта ня журботна, але трэба сказаць, што па нашай сыстэме зноў выявіўся ўзрост растрат. Вось лічбы. Сярэдняя квартальная сума растрат мінулага году складае прыкладна 32 тыс. руб., а сярэдняя квартальная сума гэтага году—ужо складае 42 тыс. руб. Акрамя таго характэрна тое становішча, што з агульнай колькасьці 600 спажыўтаварыстваў у 251 здарыліся растраты. Такім чынам выходзіць, што ў 45 проц. нашай сыстэмы крадуць. Ці абманваюць нас лічбы, якія маюцца—пытаньне другое, але ва ўсякім разе мы робім вывады, грунтуючыся на тых матар'ялах, якія атрымліваем ад вас. Гэтае пытаньне бязумоўна павінна прыцягнуць да сябе нашу ўвагу. Акрамя таго, паквартальна растраты ідуць так: 1-шы квартал 27/28 г.—42 тыс. руб., 2-і квартал—47 тыс. руб., 3-і квартал—49 тыс. руб, як быццам яно так і павінна быць. Таму пытаньне растрат у нашай сыстэме зьяўляецца найактуальным пытаньнем, над якім трэба сур'ёзна задумацца.

Ня так даўно слухалі наш даклад у Калегіі Наркамату РСІ, якая вынесла рад пастаноў практычнага характару. Нам трэба для ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў РСІ грунтоўна страсануць нашу коопэрацыйную і савецкую грамадзкасьць, нашых работнікаў, наш інструктарскі апарат.

Поплеч з гэтым трэба сур'ёзна падумаць, як палепшыць кантроль і рэвізыю нашых спажывецкіх таварыстваў. Мы канстатавалі рад фактаў, калі рэўкамісіі на мясцох, правяраючы некалькі раз спажыўтаварыства, саміх фактаў растрат не прыкмячалі, а растраты цягнуцца па 2-3 гады. Як відаць, мы маем справы з ужываньнем такіх штук, такіх махінацый, якія не заўсёды па сіле рэўкамісіі. Над ужываньнем такіх махінацый, якія маюць мейсца ў нашай сыстэме, трэба сур'ёзна задумацца ўсім нам і ў першую чаргу інструктарскаму апарату нашых саюзаў.

Пытаньне работы з беднатой, пытаньні сходаў беднаты і г. д. патрабуюць з нашага боку значна большай увагі. Праўда, у пытаньнях організацыі беднаты, кіраўніцтва работай з беднатой мы забясьпечаны тым, што гэтай справай займаецца наша партыйная організацыя. Але разам з тым наш удзел у гэтай рабоце, наша дапамога павінны быць значна большымі, чым да гэтага часу. Мы павінны больш аддаць увагі пытаньням організацыі груп беднаты, правядзеньня сходаў беднаты, наладжваньня гэтай работы. Мы павінны ў гэтай справе адыграць большую ролю чым раней.

Пад канец трэба ўнесьці больш яснасьці ў разуменьне, што такое група беднаты і сход беднаты. У гэтым пытаньні і па сёньнешні дзень у нашых коопэрацыйных організацыях наглядаецца блытаніна. У большасьці тое і другое разуменьне не адрозьніваецца, тады як група беднаты зьяўляецца стала-дзейнічаючым інстытутам з выбарных коопэрацыйных органаў, а сход беднаты—пэрыядычная работа в апошняй. Ня гледзячы на тое, што ў гэтым пытаньні ёсьць зусім ясная ўстаноўка з боку нашай партыі і блытаніны не павінна было быць.

У пытаньні вылучэньня справа абстаіць надзвычайна кепска. Вылучэньне ў нас надзвычайна маруднае, часам выпадковае. Сыстэматычнай работы па высоўваньню ў нашай сыстэме яшчэ няма. Мы, напрыклад, маем у адносінах высоўваньня жанчын у коопэрацыйныя організацыі да сьмеху нязначныя лічбы. У Гомсаюзе адна жанчына прыпадае на 30 спажыўтаварыстваў. Аб тым, колькі жанчын у праўленьнях, і гаварыць ня прыходзіцца.

Адным з вялікіх недахопаў у галіне масавай коопэрацыйнай работы зьяўляецца тое, што мы яшчэ ня поўнасьцю выжылі свой кампанейскі характар. Мы яшчэ ня маем таго становішча, пры якім у нас праводзілася-б сыстэматычна-плянавая работа, узгаднёная з агульнай масавай работай у вёсцы. Па тых матар'ялах і распрацоўках, якія ў нас ёсьць, мы гэтага поўнасьцю канстатаваць ня можам.

Зусім ня прыходзіцца гаварыць аб тым, што мы нічога не зрабілі ў галіне кінофікацыі вёскі. Кіно- і радыё-работа не разгорнуты акрамя Віцебску, дзе гэтае пытаньне вырашана організацыяй 10 кіно-перасозак і правядзеньнем курсаў кіно-мэханікаў. У Дняпросаюзе нам. старшыні Саюзу гаворыць: «Мы думаем што-небудзь зрабіць, але зараз заняты гандлёвай работай і няма часу гэтым пытаньнем заняцца». Разам з тым трэба напомніць, што пастановай нашых партыйных органаў на коопэрацыю ўзложана задача кінофікацыі вёскі. Гэта зусім правільна, бо мы зьяўляемся найбольш разгорнутай організацыяй і маем гаспадарча-фінансавую базу ў вёсцы. Вядома, што гэтую задачу мы павінны выканаць, мы павінны значна шырэй пасунуць справу кінофікацыі вёскі. Нашым Саюзам трэба аддаць гэтай справе больш увагі, чым гэта было да гэтага часу.

І яшчэ адно пытаньне ў галіне недахопаў, гэта пытаньне капітальнага будаўніцтва і наогул пытаньне будаўніцтва нашай сеткі. Трэба падкрэсьліць, што тэмп нашага будаўніцтва, капіталаўкладаньні ў будаўніцтва далёка адстаюць у параўнаньні з тымі мінімальнымі патрэбамі, якія высоўваюцца фактам пашырэньня асартымэнту, павялічэньня звяротаў, падвышэньня патрабаваньняў спажыўца да якасьці гандлю і яго абслугоўваньня. Само-ж будаўніцтва, якое мы праводзім, праходзіць без дастатковай плянавасьці. Будуецца без адпаведнага вучоту, які неабходны ў гэтай пабудове. Будуюцца крамкі, якія не ўвязаны з агульным ростам зваротаў данага таварыства. Дастатковага кантролю за самім будаўніцтвам няма. Зразумела ў гэтым ёсьць і наша віна, якая зводзіцца да таго, што мы ня далі нашай сыстэме какрэтных кіруючых напрамкаў у галіне будаўніцтва, што мы не ўтварылі такога становішча ў цэнтры, якое магло-б у вядомай меры дзейнічаць на плянавасьць у гэтым пытаньні на мясцох. Але разам з тым такое палажэньне на сёньняшні дзень мы маем. Праўда, мы зараз у Белкоопсаюзе займаемся гэтым пытаньнем, мы хочам гэтаму пытаньню прыдаць больш плянавасьці і рэгуляваньня і ў адносінах разьмеркаваньня сродкаў і ў адносінах самога будаўніцтва—прынцыпаў яго. Тут трэба будзе дабіцца поўнай увязкі будаўніцтва з агульнай патрэбай сеткі, большых эфэктаў ад самога будаўніцтва і лепшага абслугоўваньня спажыўца. Намі, напрыклад, уложана вялікая сума грошай у будаўніцтва сеткі, асабліва ў вёсцы (за 26-27 і 27-28 г. г. каля 800 тыс. руб.). Але, каб мы маглі сказаць на сёнешні дзень, што мы дасканала ведаем, на што гэта пашло, які эфэкт дало сетцы, на колькі

гэта здаволіць нашу сапраўдную патрэбу,—мы гэтага сказаць ня можам.

Я бяру на сябе сьмеласьць сказаць, што калі запытаць у любога прадстаўніка Саюзу, колькі па нізавай сетцы данага Саюзу ўложана сродкаў, на што, на колькі гэта здаволіць патрэбу,—ён гэтага не скажа, таму што яму гэта невядома. І калі мы затрабавалі гэтыя зьвесткі, нам гэтак і сказалі, што зьвестак у нас яшчэ няма, зьбіраем і г. д. У гэтым пытаньні ёсьць поўная блытаніна і неўпарадкаванасьць і, кажучы аб ім, трэба завастрыць нашу ўвагу на зьнішчэньні ў далейшым гэтых зьявішчаў.

Вось, таварышы, пералік усіх пытаньняў, якія я хацеў закрануць у частцы нашых недахопаў. Зразумела іх надзвычайна шмат, але і тых, аб якіх я гаварыў, дастаткова для вываду аб наяўнасьці ў нашай рабоце вялізарнай колькасьці недахопаў.

Апошні момант, на якім я хачу застанавіцца—гэта пытаньне крытыкі нашай работы. Мы ў гэтай галіне ў параўнаньні з іншымі арганізацыямі амаль нічога не зрабілі. Мы гэтую справу не пасунулі як сьлед уперад. Мы маем цэлы шэраг коопэрацыйных выданьняў: «Шлях Коопэрацыі», «Спажывецкая Коопэрацыя», «Бюлетэнь БКС», а калі іх праглядзіць, дык нічога, дзе-б пісалася аб нашых хворых зьявішчах, аб нашых асобных недахопах, якія маюцца—не знаходзіш. Вы знойдзеце прыкладна, што прыказчыкам насваечасова быў адпушчан тавар, што прыказчык зьявіўся на службу позна і іншыя падобныя заметкі, але такія, якія-б сапраўды ўскрывалі нашыя балячкі, ня знойдзеце. Не ўзварушаны коопэрацыйны актыў і ўся коопэраваная маса, не прыцягваецца ўвага нашай коопэрацыйнай грамадзкасьці да пытаньня растрат, да бюрократызму і г. д. Я застанаўліваюся на гэтым пытаньні для таго, каб надаць яму большае значэньне, чым гэта было да гэтага часу.

Цяпер, таварышы, аб задачах, якія стаяць перад намі на бліжэйшы год. Чытаючы рад пастаноў нарады упаўнаважаных нашых Саюзаў, асабліва апошняй нарады ўпаўнаважаных Б. К. С. і Цэнтрасаюзу, дзе гаворыцца аб далейшых задачах разгортваньня арганізацыйнай, грамадзкай-масавай работы ў нашай сыстэме, мы, зразумела, можам пры вызначэньні задач на будучы год значна сьмялей сказаць, што ў гэтай галіне маецца шмат дырэктыў. У мяне, напрыклад, маецца пад рукамі вялікая рэзалюцыя Цэнтрасаюзу па дакладу тав. Агеева, у якой маецца рад надзвычайна каштоўных, канкрэтных установак. Мы маем досыць дырэктыў з боку нашай партыі. І што-ж? Здавалася-б, што калі гэтыя выразныя яскравыя пастановы, якія маюцца ў гэтых рэзалюцыях, у дастатковай меры грунтоўна прапрацаваць, на падставе іх вызначыць адпавядаючы плян, канкрэтны плян для правядзеньня іх у жыцьцё і тады, здаецца, можна было-б зусім супакойна сказаць, што арганізацыйная, грамадзка-масавая работа будуць прасоўвацца даволі добра ўперад. Але, улічваючы некаторую нашу закаранеласьць, усё-ж прыходзіцца пры вызначэньні задач на бліжэйшы год завастрыць вашу ўвагу на цэлым шэрагу пытаньняў.

Зусім ясна, што калі мы ставім задачай далейшае коопэраваньне, мы ня можам будаваць гэты плян, выходзячы з розных пунктаў погляду па гэтаму пытаньню. Вядома ўсім, што маюцца размовы аб тым, што больш перадавая, больш сьвядомая частка насельніцтва знаходзіцца ў коопэрацыі. Што далей будзе цяжкавата. Такая тэндэнцыя ёсьць. Мы зразумела будуючы нашы пляны выходзіць з гэтага ня можам. Мы будуючы нашы пляны далейшага коопэраваньня выходзілі з зусім рэальнай пастаноўкі пытаньня аб 100-процантным коопэраваньні.

Калі гэнэральны плян коопэраваньня насельніцтва яшчэ пісаўся т. Леніным мы тады знаходзіліся ў пэрыядзе, калі кругом нас і даволі прыстойна дзейнічала прыватная стыхія, калі коопэрацыя фактычна знаходзілася ў падпарадкаваным становішчы, калі яна не ўяўляла

значнай грамадзка-масавай організацыі,якую яна ўяўляе сабою зараз,—ня гледзячы на гэта плян аказаўся зусім рэальным, і пагэтаму, калі мы будуем наш плян, трэба выходзіць з таго, што пытаньне 100-проц. коопэраваньня насельніцтва зьяўляецца зусім рэальным, і ніякія сумненьні ня могуць быць. Свой плян мы будуем, ставячы перад сабою задачу коопэраваньня ў надыходзячым гаспадарчым годзе 104 тыс. чалавек і тым самым давесьці ступень ахопу двароў да 64 проц.

У галіне коопэраваньня беднаты стаіць зусім выразная і ясная вялізарнай палітычнай важнасьці задача,—коопэраваць на працягу бліжэйшых 2-х гадоў усе бядняцкія гаспадаркі. Дзеля гэтага на працягу 1928-29 году з агульнага ліку 104 тыс. чал. неабходна коопэраваць 50 тыс. беднаты, давёўшы проц. коопэраваньня да 84 проц. Мы ставім перад сабой задачу ўтварэньня фонду для коопэраваньня беднаты, прыкладна, у 250—300 тыс. рублёў. Гэтым самым мы выканаем дырэктыву XV партзьезду, якая гаворыць аб поўным коопэраваньні беднаты на працягу бліжэйшых гадоў. Тым самым мы вырашаем адно з важнейшых соцыяльных пытаньняў. Трэба падкрэсьліць, што пытаньне коопэраваньня і такі вялікі тэмп яго, які мы перад сабой ставім, сустракае на шляху свайго ажыцьцяўленьня цяжкасьці ня толькі ў пытаньнях соцыяльнага складу нашага насельніцтва і гаспадарчай слабасьці, але ў пытаньнях палавога складу. Напрыклад, вялікую цяжкасьць уяўляе сабой коопэраваньне другіх сяброў сям'і. Мы ва ўмовах БССР ставім перад сабой задачу коопэраваньня 17 тыс. другіх сяброў сям'і. Зусім зразумела, што гэтую задачу ажыцьцявіць будзе надзвычайна цяжка. Ці трэба яе вырашыць, у гэтым ніякіх сумненьняў няма і мне думаецца, што тут асаблівых тлумачэньняў непатрэбна. Сама пастаноўка пытаньня аб 100-процантным коопэраваньні насельніцтва—задача, якую мы ставім, гаворыць, што тут маюцца на ўвазе і другія сябры сям'і, а ў гэтых адносінах у нас справа амаль не кранута з мейсца. Нам трэба для гэтага шырока разгарнуць работу па коопэраваньню другіх сяброў сям'і—жанчын, моладзі—на ўмовах узносу 20-процантнага паю, дапускаючы пры гэтым для бядняцка-батрацкіх груп коопэраваньне за лік фонду беднаты, растэрміноўкі.

Пры вырашэньні гэтага пытаньня, паколькі яно зьяўляецца амаль што новым, новым у тых адносінах, што мы пачынаем цьвёрда гаварыць у адпавядаючых кантрольных лічбах, па коопэраваньню данай часткі насельніцтва, пастолькі нам трэба праявіць асаблівую гібкасьць.

Перад намі паўстае новая задача абслугоўваньня нашых калектыўных гаспадарак. Мы гэтае пытаньне распрацоўваем. Мы думаем унесьці ў статут БКС дадатковыя пункты аб парадку абслугоўваньня і характару ўваходжаньня ў коопэрацыю камун і арцелей. Гэтае пытаньне таксама трэба абгаварыць пад пунктам погляду, як лепш нам яго організаваць. Я хачу каб таварышы з мейсц выказалі свае меркаваньні па гэтаму пытаньню.

Я ўжо гаварыў аб тым, што пытаньне далейшага посьпеху коопэраваньня цесна зьвязана з пытаньнем пераважнага абслугоўваньня організованага спажыўца. Нам трэба будзе гэтае пераважнае абслугоўваньне організаванага спажыўца ўключыць у далейшым ў плян нашай работы. Водпуск дэфіцытных тавараў, водпуск у першую чаргу, большых норм і інш. павінен даць сябе адчуваць коопэраванай частцы насельніцтва, якія гавораць аб пераважным абслугоўваньні організованага пайшчыка.

Трэба падумаць на нашай нарадзе наконт дзьвюх цэн, пайшчыкам і непайшчыкам. На Украіне гэтае пытаньне пачынае ажыцьцяўляцца. Тав. Наўлянскі гаворыць, што яны ў гэтай справе пакуль што правaліліся, але ва ўсякім разе пытаньне двайных цэн насьпела. Мы яго ў сябе падрыхтоўваем. Я кажу аб гэтым таму, што хачу выявіць агульную думку. Я асабіста прыхільнік дзьвюх цэн. Лічу, што гэта будзе мець ня толькі эканамічны ўплыў на некоопэраваную частку

насельніцтва, але мне думаецца, што тут хаваецца і палітычнае значэньне, паколькі мы гаворым аб 84-проц. коопэраваньні беднаты, паколькі ў нас ў гэтым годзе будзе значна большы процант батрацкіх мас, паколькі ўсё-ж заможны пласт насельніцтва, які поўнасьцю не знаходзіцца ў коопэрацыі, будзе плаціць некалькі даражэй за асобныя тавары. Нельга тут праманаць і моманты накапленьня.

Мы таксама завастраем увагу на прадстаўленьні працы беднаце. Мы са ўсёй шчырасьцю падкрэсьліваем неабходнасьць дабіцца таго, каб работу, якая маецца ў коопэратыве (перавозка і інш.) аддаваць у першую чаргу беднаце. Няма чаго тут асабліва займацца комэрцыйнымі выкрунтасамі. Трэба зрабіць зусім ясную ўстаноўку ў тым, што ўся праца, якая маецца ў коопэрацыйных організацыях павінна перадавацца беднаце вёскі. Такі тон трэба даць спажыўтаварыствам і такую дырэктыву трэба даць нашым інструктаром.

Далей адносна зьвязкі асабістай матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыка з работай, якая праводзіцца па агульна-масаваму і культурна-бытавому яго абслугоўваньню. На гэты бок справы, калі мы гаворым аб далейшых задачах нашай работы, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Вырашэньне гэтага пытаньня наблізае нас да таго, што гэта павінна ў значнай меры прыблізіць пайшчыка да коопэрацыі, што гэта павінна ў значна большай ступені органічна зьвязаць пайшчыка з нашай коопэрацыяй, павінны ў большай меры павялічыць ролю пайшчыка ў будаўніцтве коопэрацыі, тым самым і стымул коопэраваньня некоопэраванай часткі насельніцтва павялічыцца.

Зусім ясна, што пытаньне органічнага перарастаньня колькаснага разьвіцьця спажыўсыстэмы ў якасны рост зьяўляецца аснаўным пытаньнем у нашай рабоце. Гэта зьяўляецца нашай першачарговай задачай. Я на гэтым доўга спыняцца ня буду, бо лічу яго дастаткова ясным. Я толькі падкрэсьліваю для таго, каб мы зналі, што бяз гэтага прасоўвацца далей будзе цяжка.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач нам трэба разьвіць шырокую крытыку і самакрытыку зьнізу да верху. Па ўсёй сетцы трэба рашуча выжыць баязьлівасьць крытыкі нашых спажывецкіх таварыстваў. Мы маем выпадкі, калі хто-небудзь з актыву або наогул пайшчык спрабуе крытыкнуць, пабудзіць да жыцьця цэлы шэраг інстытутаў грамадзка-масавага значэньня, створаных у коопэрацыі сэкцый, крамных камісій і оргкульткамісій, дык на гэта спажывецкае т-ва дае адпор, баіцца, ухіляецца ад гэтага.

Трэба стаць на шлях вядзеньня сыстэматычнай работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы новага кадру коопэрацыйных работнікаў. Дабіцца большай адказнасьці ў рабоце нашых асобных таварышоў за справу, якая ім даручаецца. Мне думаецца, што тую мяккасьць, якую мы прывыклі часта праяўляць пры выжываньні тых ці іншых недахопаў трэба ў далейшым зьнішчыць. Трэба ўзмацніць кантроль мас над работай ўсёй сыстэмы і асобных таварышоў.

Усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца злучнасьцю таго, што паможа нам паскорыць ажыцьцяўленьне пляну па коопэраваньню, паенакапленьню. Гаварыць наогул аб далейшым коопэраваньні і іншых пытаньнях організацыйна-грамадзка-масавай работы без правядзеньня гэтых мерапрыемстваў, аб якіх я гаварыў, зьяўляецца зразумела задачай няжыцьцёвай.

Далей, па пытаньню паенакапленьня. Якую мы маем устаноўку? Неабходна тут на оргнарадзе падкрэсьліць, што той тэмп індустрыялізацыі, які мы зараз разьвіваем патрабуе з боку нашай дзяржавы вялікай колькасьці сродкаў. І зразумела, што пры такім становішчы нашай коопэрацыі разьлічваць на прыток сродкаў ад дзяржавы зусім ня прыходзіцца. Гады, калі мы фактычна так існавалі і думалі, што так і трэба, даўно прайшлі. Вялізарны рост нашай сыстэмы патрабуе больших сродкаў і большага фінансавага ўзмацненьня з самой сыстэмы.

Такім чынам асноўнай устаноўкай нашай арганізацыйнай работы ў адносінах фінансавых, гаспадарчых, у адносінах паенакапленьня,—зьяўляецца курс на максымальнае ўцягваньне сродкаў насельніцтва ў нашу сыстэму спажыўкоопэрацыі ў выглядзе паёў, укладаў і авансаў. Наша задача зводзіцца да таго, каб сабраць 2.611 тыс. руб. за 1928-29 г. і тым самым давесьці сярэдні пай па БССР да 9 руб. замест 5 р. 58 к. Задача надзвычайна вялікая, цяжкая, але разам з тым вырашыць яе патрэбна як бы ня было.

Я, таварышы, хачу зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што прыток паявых сродкаў па асобных Саюзах далёка нераўнамерны. Мы маем сярэдні пай па Дняпросаюзу 4 р. 85 к., па Віцебскаму Саюзу—6 р., па Гомельскаму 6 р. 76 к., па Бабруйскаму 4 р. 74 к. і г. д. Пагэтаму перад намі стаіць задача падцягнуць саюзы, якія адстаюць, да 9 руб., гэтым самым сабраць паявы капітал у 2.611 тыс. руб.

Трэба са ўсёй выразнасьцю падкрэсьліць, што такі тэмп росту паявых капіталаў, бязумоўна, патрабуе праўядзеньня напружанай работы. Вырашэньне гэтага пытаньня ўпіраецца ў неабходнасьць ня толькі часовай накачкі, тут патрабуецца зусім выразная ўстаноўка на цэлы год. Вызначанае лічбы мы дасягнем толькі пры ўмове напружанай работы цэлы год, з прыцягваньнем шырокіх мас коопэрацыйнай грамадзкасьці. Актуальнай праблемай у сувязі з неабходнасьцю ўзмацненьня фінансавай базы коопэрацыі і ўвязкі разьмераў паявых ўзносаў пайшчыкаў з ступеньню гаспадарчага абслугоўваньня асобных сацыяльных груп насельніцтва—зьяўляецца ўвядзеньне новай сыстэмы паявых узносаў, аснованай на прынцыпе ўстанаўленьня дыфэрэнцыраваных разьмераў.

Для вырашэньня гэтай праблемы мы лічым патрэбным ужо з гэтага году (ня ведаю наколькі гэта ўдасца распрацаваць) пачаць уводзіць у практыку дыфэрэнцыраваны пай. Ня ведаю ці абгаварвалася гэтае пытаньне на мясцох, ці падлягала яно распрацоўцы, але ва ўсякім разе яно патрабуе неадкладнага вырашэньня. Мы ў Белкоопсаюзе гэтае пытаньне прапрацавалі. Зьвязаліся з Цэнтрасаюзам, які абяцаў выслаць прыблізны праэкт іх палажэньня. Пагаварыць аб гэтым пытаньні на нашай Органардзе, пад'агуліць думкі па гэтаму пытаньню—зьяўляецца зусім неабходнай задачай.

Мы лічым, што ўвядзеньне дыфэрэнцыраванага паю паложыць пачатак больш правільнага разьмяшчэньня паявых абавязкаў у адносінах асобных груп насельніцтва. Бо трэба мець на ўвазе, што калі мы будзем гаварыць аб дыфэрэнцыраваным паі, мы будзем гаварыць аб асобных соцыяльных групах і ў залежнасьці ад гэтага будзем павялічаць разьмер паявых капіталаў. Гэта адно, і другое—увядзеньне дыфэрэнцыраванага паю бязумоўна ўнясе большую ўстойлівасьць на пэўны працяжны тэрмін самога разьмеру паю. Мы зараз асаблівай сталасьці ў разьмеры паю ня маем. Трэба думаць, што пытаньне дыфэрэнцыраванага паю сыграе пэўную ролю ў гэтай сталасьці. Я ўжо не кажу аб тым, што гэта ў значнай меры будзе садзейнічаць пераліваньню сродкаў ад насельніцтва і што ажыцьцявіць лёзунг гаспадарча-фінансавай самастойнасьці нашай сыстэмы (эразумела ў тым сэнсе, каб яна ў першую чаргу апіралася на ўласныя сродкі) будзе значна лягчэй, і што тым самым мобілізацыя сродкаў насельніцтва будзе праходзіць хутчэй, чым да гэтага часу. Вось тая ўстаноўка, якую мы робім у галіне паянакапленьня, зьбіраньня сродкаў і пытаньня аб дыфэрэнцыраваным паі.

Цяпер некалькі слоў у галіне рацыяналізатарскай работы. Я павінен сказаць, што гутаркі, якія ўвесь час мелі мейсца, патрэбны ці не патрэбны спэцыяльныя ячэйкі па рацыяналізацыі, знайшлі сваё вырашэньне ў нас у БКС. Мы ўжо такую ячэйку ў Белкоопсаюзе ўтварылі. Патрабаваньні, якія прад'яўляюцца да арганізацыі ў адносінах тавару і якаснага таварнага абслугоўваньня і наогул таннага абслугоўваньня спажыўца, узрасьлі да такой ступені, што наша спажыўкоопэрацыя

павінна зрабіць рашучы крок па шляху радыкальнага паляпшэньня ўсёй работы, а для гэтага патрэбна вялікая рацыяналізатарская работа.

У практычнай нашай рабоце кожны з нас, хто-б мы ні былі і каго-б мы сабой не ўяўлялі, без наяўнасьці адпавядаючага кадру кваліфікаваных людзей, якія маглі-б концэнтраваць сваю ўвагу выключна на гэтым пытаньні, нам нічога больш-менш грунтоўнага зрабіць ня ўдасца. У галіне грамадзка-масавай і культурна-бытавой работы ў коопэрацыі на бліжэйшы год ставім сабе задачу прыкладна ў наступным выглядзе. Аб тым, што мы ўяўляем сабой вялізарную масавую організацыю, я гаварыў і паўтараць ня буду. Паўмільёна коопэраванага насельніцтва гаворыць аб тэй вялізарнай масавасьці, якую мы сабой уяўляем. Але тут трэба асабліва рэзка падкрэсьліць, што кольказсьць пакуль-што ёсьць пасыўны бок масавасьці. Аб'яднаць насельніцтва ў коопэрацыю і не разгортваць працу з ім—яшчэ не гаворыць аб разьвіцці грамадзкасьці. Загэтым, пытаньні разгортваньня грамадзкасьці і масавай работы сярод гэтай масы набываюць найактуальнае значэньне, бо не разгортваючы гэтай работы мы можам застацца з пасыўнымі людзьмі. А намі работа павінна накіроўвацца ў такім парадку, каб выкаваць з пайшчыкаў актыўных удзельнікаў коопэрацыі. Гэта неабходна зрабіць у чым бы-та ні стала.

У гэтых адносінах наша работа надзвычайна марудна разгортваецца. Праўда, мы маем розныя масавыя організацыі, інстытуты грамадзка-масавага характару, як: сходы ўпоўнаважаных, сэкцыі, крамкамісіі і г. д., але ўсё-ж, мне думаецца можна ня схлусіць, калі сказаць, што з іх 50 проц. зьяўляюцца няжыцьцёвымі. Таму перад намі стаіць на будучы год (і я асабліва гэта падкрэсьліваю) задача, як бы ня было, дабіцца разгортваньня гэтай работы. Тут маецца шэраг асьцярог і сумненьняў аб тым, што нашымі організацыямі на мясцох, дзякуючы недастатковай актыўнасьці з нашага боку, пачнуць кіраваць іншыя організацыі, што мы як бы адыходзім на другі плян. Гэта мае мейсца там, дзе нашы таварышы недаацэньваюць гэтага пытаньня. Нам, зразумела, трэба сёньня падкрэсьліць, што кіруюць гэтай справай непасрэдна нашы паўнамоцныя органы—праўленьні коопэратываў і г д. Мы ня хочам адрывацца ад іншых організацый, мы хочам увязаць гэтаю работу з адпавядаючымі організацыямі, але я паўтараю, што дзякуючы нашай пэўнай слабасьці і недаацэнкцы наш твар губляецца, і нашымі інстытутамі масава-грамадзкага значэньня, якія маюцца ў вёсцы, пачынаюць заўладоўваць іншыя організацыі.

Яшчэ некалькі слоў аб культпрацы. Якія-колечы пачынаньні ў гэтым напрамку праводзяцца, але ў параўнаньні з тымі запатрабаваньнямі, якія нам прад'яўляе насельніцтва, у тым ліку і коопэраванае, гэта ні ў якай меры не адказвае запатрабаваньням. Гэтаму ёсьць прычыны: 1) скарыстаньне сродкаў не па простаму прызначэньню, 2) няма ніякай выразнасьці і плянавасьці ў рабоце, праводзіцца яна ад выпадку да выпадку, няма ўвязкі на мясцох з хатамі-чытальнямі, оргкультасьветкамісіі амаль не працуюць, бытавыя мерапрыемствы часта організоўваюцца без дастатковага вучоту ўмоў на мейсцы, без дастатковага прыстасаваньня да запатрабаваньняў насельніцтва.

Кніга прасоўваецца яшчэ слаба. Кінофікацыя вёскі ня ўсюду намі праводзіцца. Гэтыя моманты зьяўляюцца тормазам у правядзеньні культасьветработы. У далейшым мы павінны паставіць перад сабой задачу—наладзіць плянавую масавую культ-асьвет-бытавую работу. Мы зараз рыхтуем кадр людзей да гэтай работы як у БКС так і ў Саюзах. Фонд, які мы маем на 1928-29 год вызначаецца ў суме каля 2500 тыс. руб. Пры рэяльным яго выкарыстаньні мы зможам правесьці вялікую работу, а калі мы патрацім гэтыя грошы на культурна-масавую работу і не атрымаем ніякага эфэкту, калі сродкі, якія маюцца, мэтазгодна не скарыстаем,—то нас за гэты мала будзе абляяць. Да гэтага патрэбна будзе аднесьціся сур'езна.

На пытаньні кінофікацыі я застанаўлівацца ня буду, аб гэтым будзе гаварыць асобны таварыш. Мы з гэтай справай знаходзімся ў зачатковым становішчы. Мяркуем закупіць 34 кінаперасоўкі.

Апошнія пытаньні, на якіх я хачу застанавіцца, гэта аб інструктарскай працы на далейшы час. Я хачу падкрэсьліць, што гаспадарчае разьвіцьцё сеткі і той рост, які мы маем, патрабуюць далейшага якаснага палепшаньня інструктарскага апарату. Для гэтага неабходна: 1) падвысіць кваліфікацыю інструктароў, 2) забясьпечыць поўнае кіраўніцтва інструктароў нізавой сеткай ня спыняючыся толькі на адных рэвізыях.

Работу інструктарскага апарату трэба паставіць так, каб яна была саўпраўды работай арганізуючага парадку, каб інструктар быў ня столькі рэвізорам, колькі асобай, дапамагаючай у працы спаж. т-ва, дапамагаў бы нізоўцы, як лепш паставіць кооправоту на мясцох, паказваючы своечасова на асобныя недахопы, быў-бы сігналізатарам усякіх зьявішч.

Аднак, мы тут маем цэлы шэраг цяжкасьцяў. Мы адчуваем недахоп у падрыхтаваных работніках. Нам трэба падабраць людзей, якія-б адпавядалі таму аб'ёму задач, якія стаяць перад нашай сыстэмай. Па ўсяму БКС мы маем толькі 6 чалавек на вышэйшых кооперацыйных курсах. Некалькі чалавек мы маем у тэхнікуме. Але гэта недастаткова. Трэба яшчэ што-небудзь прыдумаць. Можа належыць пагаварыць аб арганізацыі каротка-тэрміновых курсаў. Таму што час не чакае і патрэба ня толькі тэхнічная граматнасьць, а нешта большае. Калі ўзяць Віцебскі тэхнікум, дык мы лічым, што ён не адказвае нашым запытаньням, не ўяўляе сабой такое ўстановы, з якой мы маглі-б чэрпаць людзей, якія-б па сканчэньню тэхнікуму маглі праявіць сябе на тэй ці іншай рабоце. У лепшым выпадку мы атрымліваем рахункаводаў.

Пытаньне перагляду праграм навучаньня ў Тэхнікуме, прыстасаваньне да патрэб спажыўкооперацыі зьяўляецца найактуальным пытаньнем, і паколькі мы ва ўмовах БССР маем толькі адзін гэты Тэхнікум, то зусім правільна падымаюць нашы работнікі перад НКАсьветы пытаньне аб неабходнасьці перагляду праграм Тэхнікуму, пад кутом погляду большага прыстасаваньня да нашых патрэб.

Я таварышы думаю, што трэба нам сур'ёзна задумацца і аб мэтадах інструктаваньня. Трэба адказацца ад традыцыйнай сыстэмы работ агульнага інструктаваньня. Нам трэба будзе перайсьці на асобныя мэтавыя абгляды, вывучэньне праверкі інструктаваньня. Такую ўстаноўку трэба будзе зрабіць. Неабходна больш рэгулярнай консультацыі. Гэтае пытаньне зьяўляецца жыцьцёвым у працы нашых спаж. т-ваў. Трэба ні на адну хвіліну не забывацца, што склад работнікаў у нізоўцы зьяўляецца вельмі нізкім па свайму кооперацыйнаму стажу. Вось чаму пытаньне консультацыі з боку інструктарскага апарату бесспрэчна зьяўляецца жыцьцёвым пытаньнем работы спажывецкага таварыства. Яно павінна стаяць у цэнтры ўвагі інструктара.

Апошняе пытаньне—аб адзінстве нашай кооперацыйнай сыстэмы. Мне думаецца, што ня варта паўтараць аб тэй адказнасьці, якая стаіць перад намі, што пры вырашэньні гэтай задачы нам патрэбна, як я ўжо казаў, больш адказнасьці, большага адзінства і ўзмацненьня ўнутры кооперацыйнай дысцыпліны. У гэтым пытаньні ў нас ня ўсё як трэба. Мы ўяўляем сабой грамадзка-масавую арганізацыю, і, калі не захаваць патрэбную дысцыпліну, патрэбнага адзінства і кіраўніцтва, то зразумела значэньне гэтай арганізацыі ў вачох насельніцтва будзе падаць. Трэба, як-бы ні было, гэтага поўнасьцю дабіцца.

І яшчэ адно—гэта неабходнасьць большага кіраўніцтва вышэйшых зьвеньняў ніжэйшымі. Трэба пашырыць практыку ўзаемнай інфармацыі, абмену вопытам работы самой сыстэмы. Толькі пры такіх умовах нам удасца вырашыць тыя задачы, якія перад намі стаяць.

Вось, прыкладна, той пералік пытаньняў, на якіх я лічыў неабходным застанавіцца на нашай нарадзе.

*Зацьверджана Праўленьнем Белкоопсаюзу 31/X-28 г., прат. № 26/156.*

# Рэзалюцыя па дакладу тав. Хаскіна аб становішчы і асноўных задачах работы спажыўкоопэрацыі БССР.

Спажывецкая коопэрацыя Беларусі ў сучасны момант уяўляе сабой організацыйна і гаспадарча акрэпшую форму грамадзкага гандлю, заняла асноўнае і рашаючае мейсца ў сыстэме прасоўваньня тавараў. Поплеч з ростам гаспадарчай значнасьці сыстэмы і яе організацыйным узмацненьнем, шырока разьвіваецца масавая і культурна-асьветная дзейнасьць коопэрацыі, узвышаецца яе ўдзельная вага, як організацыі шырокай самадзейнасьці спажыўцоў.

## I. Організацыйнае становішча спажыўкоопэрацыі.

У сучасны момант організацыйнае становішча характарызуецца наступнымі данымі, якія зьявіліся вынікамі дзейнічаньня злучасьці ўсіх організацыйных мерапрыемстваў і работ, праведзеных за апошнія гады.

1. Лік пайшчыкаў на 1/X-28 г. ўзрос да 493 тысяч чал., прырост за год на 115 тысяч, у сувязі з чым коопэраваньне гаспадарак павялічылася з 39 проц. да 54,8 проц.

2. Створаны фонд коопэраваньня беднаты ў 250 тысяч руб., коопэравана 95 тыс. чал., альбо 52 проц. бядняцкіх гаспадарак.

3. Сабрана ў працягу году 1.700 тыс. руб. паявых капіталаў, паявы капітал спажыўтаварыстваў павялічыўся на 160 проц., сярэдні пай узрос з 2 р. 73 к. да 5 р. 58 к. на 1/X-28 г. Гэтыя посьпехі ў асноўным зьяўляюцца вынікам правядзеньня курсу на пайшчыка ў адносінах яго пераважнага гаспадарчага і культурнага абслугоўваньня.

4. Гаспадарчае і організацыйнае ўзмацненьне нізоўкі. Лік спажыўтаварыстваў з 652 на 1/X-27 г.—на 1/X-28 г. зьменшыўся да 584: коопэратывы ўзбуйнелі, лік аднакрам скараціўся з 200 да 100.

Гэтым самым раёны спажыўтаварыстваў узбуйнены і пашырана іх эканамічная база. Аднačасова з гэтым сетка коопэрацыйных крам увесь час расьце: на 1/X-27 г.—1800, на 1/X-28 г.—1893 крамы.

5. Разам з гэтым значна палепшыўся і ўзмацніўся нізавы коопэрацыйны апарат—партыйны склад узрос з 23,7 проц. да 31,4 проц., удзельная вага беднаты ў праўленьнях узрасла з 29 проц. да 34,5 проц. Тое самае адбылося па лініі палепшаньня складу рэвізыйных камісій.

У бягучым годзе праведзена масавая перападрыхтоўка асноўнага кадру нізавога коопэрацыйнага апарату.

6. Якія кольвек дасягненьні ёсьць у галіне рацыяналізацыі работы, вынікам чаго зьявілася скарачэньне гандлёвых выдаткаў з 8,74 проц. у 1926/27 г. да 7,98 проц. у 1927/28 г. Падвышана рэнтабельнасьць, якая рэзка зьнізілася ў 26/27 г., сума прыбыткаў за 1927/28 г. складзе 1.200 тыс. руб. супроць 390 тысяч у мінулым годзе. Нагрузка на работніка ўзрасла з 13,4 тыс. руб. да 16,7 тыс. руб.

7. У працягу апошніх гадоў дасягнуты пэўныя зрухі ў галіне масавай і культурна-бытавой работы. Больш рэгулярна склікаюцца сходы ўпаўнаважаных, раённыя сходы, узрос інтарэс масы да коопэрацыйнай работы, асабліва, у сувязі з хлебазагатоўчай і паявой кампаніямі. Разгортваецца культ-асьветная і бытавая работа—за апошні год організавана дзіцячых ясьляў і пляцовак 30. Значна пашырыўся кніжны гандаль; калі ў 1926/27 г. ён праводзіўся праз паліцы, дык на 1/X-28 г. па сетцы спажыўтаварыстваў маецца 45 кніжных крам, 53 аддзелы і 135 паліц. 41 проц. усіх спажыўтаварыстваў вядзе работу з кнігай.

## II. Аснаўныя недахопы ў нашай працы.

Поплеч з гэтым неабходна больш поўна адцяніць асобныя недахопы і недасканаласьці ў нашай рабоце і паказаць слабасьці організацыйнай работы. У асноўным, усё гэта знаходзіць свой выраз у наступным:

### а) У рабоце па каапэраваньню.

1) Адставаньне коопэраваньня вёскі ад ступені яе таварнага абслугоўваньня: процант організацый двароў на 1/X-28 г.—54,8 проц., роля коопэрацыі ў забесьпячэньні вёскі ў 1927/28 г. раўна 70 проц.

2) Нераўнамернасьць і адставаньне коопэраваньня ў раёнах дзейнасьці асобных Саюзаў: так, процант коопэраваньня на 1/X-28 ў Дняпросаюзе 46,8 проц., у той час як па БССР—54,8 проц. і Віцебскім саюзе—62,9 проц.

3) Марудны тэмп коопэраваньня ў асобных Саюзах, што сігналізуе тэндэнцыю затрымліваньня гэтага процэсу, так, процант коопэраваньня па Гомсаюзу на 1/X-27 г.—49,6 проц., на 1/X-28 г.—54,3 проц.—узрост на 5,7 проц., у той час як па Віцебскаму Саюзу (адпаведна) 42,2 проц., 62,9 проц., узрост 20,7 проц., па БССР узрост 12,9 проц., па Белкоопсаюзу на 12,9 проц.

4) Коопэраваньне беднаты на мясцох праходзіць далёка не плянамерна, у шэрагу выпадкаў без дастатковага ўдзелу мясцовых організацый. Коопэраваньне часта абяртаецца ў фармальнае расьпісваньне фондавых сродкаў, без належнай прапрацоўкі пытаньня коопэраваньня на сходах беднаты, актыву і г. д. Грамадзка-коопэрацыйная самадзейнасьць беднаты ў дастатковай меры не прабуджана. Вучот коопэраваньня, астача фонду і звароту пазычак у коопэратывах і Саюзах знаходзіцца ў зусім нездавальняючым становішчы.

5) Коопэраваньне жанчын і моладзі разгорнута слаба; пастанова III Сходу Ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу аб ільготным паі не популярызавана. Удзельная вага жанчын-пайшчыц на 1/X-27 г.—9,4 проц., на 1/X-28 г.—10,2 проц.; моладзі—8,1 проц.—зьяўляецца надзвычайна нізкай.

6) Працэс коопэраваньня ў раёнах Саюзаў праходзіць без дастатковага плянава-організацыйнага ўзьдзейнічаньня, прамым вынікам чаго зьявілася рэзкая разьбежка ў ступені ахопу двароў у асобных коопэратывах (хістаньне ад 30-ці да 95-ці процантаў).

7) Грамадзка-коопэрацыйная апрацоўка некоопэраванага насельніцтва, удзел коопэрацыйнага актыву ў вярбоўцы новых пайшчыкаў—разгорнута слаба, уся работа праводзіцца, галоўным чынам, пры дапамозе мер эканамічнага парадку, коопэрацыйным апаратам, праўленьнем і прадаўцамі.

### б) У галіне коопграмадзкасьці і оргбудаўніцтва.

1) Праўленскі апарат сеткі ў асноўным уяўляе сабой растучы кадр коопэрацыйных работнікаў. Разам з гэтым, склад праўленьняў у цэлым яшчэ канчаткова ня створаны. У мінулую перавыбарчую кампанію праўленьні абноўлены на 54 проц. Пасяджэньні праўленьняў праходзяць ня ўсюды рэгулярна, «пасыўныя» члены праўленьня стаяць з боку, калегійнасьць кіраўніцтва ажыцьцяўляецца недастаткова поўна.

2) Рэвізыйныя камісіі ў сваёй большасьці працуюць слаба. Склад іх абнаўлёны на 68 проц. (Бабруйск—73 проц.)—тэхнічная граматнасьць слабая, кантроль у шэрагу коопэратываў адсутнічае.

3) Паслабленьне кантролю з боку організацыйных аддзелаў саюзаў і рэвізыйных камісій спаж. т-ваў, якое знайшло свой выраз у росьце рэстрат у нізавой сетцы.

4) Упаўнаважаныя ў пэрыяд паміж сходамі не ўцягваюцца ў коопэрацыйную работу, вопыт сэкцыйнай работы не распаўсюджан, сы-

стэма індывідуальных даручэньняў атрымала толькі частковае прысасаваньне. Сходы ўпаўнаважаных наогул яшчэ ня сталі ворганамі саправуднага кіраўніцтва і кантролю—на сходах крытыка праўленьня канцэнтруецца на пытаньнях замінак агульнага парадку (хлеб, мануфактура), глыбокай крытыкі работы цалком ад шырокай масы ўпаўнаважаных дастаткова не праяўлена.

5) Крамныя камісіі створаны ня ўсюды, асабліва ў цэнтрах коопэратываў (Любань—Слуцак). Інструктуюцца крамкамісіі слаба, канфэрэнцыі-курсы, як правіла, ня склікаюцца, у выніку гэтага слабая дзейнасьць іх, а адгэтуль і неаўтарытэтнасьць сярод пайшчыкаў.

6) У шэрагу коопэратываў з боку праўленьняў зьвяртаецца недастатковая ўвага да пытаньня арганізацыі і працы груп беднаты.

7) Высоўваньне жанчын у ворганы кіраўніцтва і кантролю недастаткова. Упаўнаважаных жанчын па БССР—5,9 проц. (у Слуцку 3,2 проц., у Бабруйску 4 проц.). У крамкамісіях, дзе ўдзел жанчын зьяўляецца найбольш мэтазгодным, па БССР—17,2 проц. (Магілеў—30,4 проц., Мазыр—27 проц.).

Абсалютна недастаткова зьвяртаецца на гэта ўвага ў Слуцку—4,8 проц., у Бабруйску—9,6 проц., у Гомелі—13,7 проц. У праўленьнях жанчыны складаюць 3,5 проц., г. зн. толькі ў 1 з 10-ці праўленьняў выбрана 1 жанчына; у Гомельскай сетцы 1 жанчына на 30 праўленьняў—яўна ненармальнае становішча. Тыя-ж зьявішчы, праўда, у некалькі зьмякчаным выглядзе, могуць быць адзначаны і з пытаньем уцягненьня ў коопработу моладзі, у праўленьнях—11,4 проц., у рэўкамісіях—11 проц.

8) У галіне арганізацыйнага будаўніцтва вызначыўся правільны курс узбуйненьня сеткі, тым ня менш, пытаньне выбару найбольш мэтазгоднага тыпу—крама, або шмат-крама, да гэтых пор не распрацованы.

Будаўніцтва сеткі праходзіць без дастатковай плянавасьці. Практычная рэалізацыя яе часта зрываецца. Рэарганізацыя сеткі спажыўтаварыстваў і крам не пазбаўлена некаторай стыхійнасьці.

9) Да гэтага часу недастаткова чотка разьмежаваны раёны спажыўтаварыстваў—выпадкі нясупаданьня статутных і фактычных раёнаў, застаўленьне па-за раёнамі абслугоўваньня асобных залюднёных пунктаў («пустыні»), перапляценьні раёнаў—ня зьнішчаны.

10) Арганізацыя сеткі крам у раёнах асобных спажыўтаварыстваў недастаткова вывучана работнікамі оргаддзелаў, пытаньне будаўніцтва сеткі крам на раёне наогул не ўпарадкавана.

## в) У галіне культурна-асьветнай работы.

1) Акрамя недахопу сродкаў на культ-работу наглядаецца яшчэ і тое, што выдаткаваньне культ-асьветфондаў праходзіць бяз пэўнага пляну, бяз вучоту мэтазгоднасьці накіраваньня фондавых сродкаў.

2) Оргасьветкамісіі—асноўны орган для вядзеньня культасьветнай работы, ня ўсюды створаны. Вопыт іх работы не падагулены.

3) Адным з недахопаў у галіне масавай і коопасьветнай работы зьяўляецца кампанейскі яе характар (перавыбарчая кампанія, МДК, справаздачная кампанія). Сыстэматычнай плянавай работы, увязанай з агульнай коопасьветработай у вёсцы, не вядзецца.

4) Выпіска газэт і літэратуры, а галоўнае, чытка іх арганізавана нездавальняюча—затрыманьне газэт у канторы, адсутнасьць масавага распаўсюджваньня практыкі галосных чытак, выпіскі газэт на групу пайшчыкаў і арганізацыя калектыўнага карыстаньня (перадача з дому ў дом)—не праводзіцца.

5) Кніжны гандаль,—асабліва паліцы, знаходзяцца ў нездавальняючым становішчы: няма выставак, асартымэнт кніг не абнаўляецца, звароты паліц невялікія, рэалізацыя праз кнігаНош не пастаўлена, ня поўнасьцю яшчэ ўяўлена сыстэмай, што гандаль кнігай ёсьць скла-

даная частка працы коопэрацыі; толькі ў апошні час маюцца зрушэньні ў гэтай рабоце.

6) Работа жанкоопактыву вядзецца не сыстэматычна, рэгулярных сходаў жанкопактыву ня робіцца, у большасьці раёнаў зусім ня прыступлена да яго організацыі.

7) Курсавая работа па падвышэньні коопэрацыйнай пісьменнасьці актыву і пайшчыкаў праведзена толькі ў асобных коопэратывах. Кадру вопытных кіраўнікоў на мясцох ня створана.

8) Кіно і радыё работа не разгорнуты. (Акрамя Віцебску, дзе гэтае пытаньне вырашана організацыяй 10 кіно-перасовак і правядзеньнем курсаў кіно-мэханікаў).

## г) У галіне рацыяналізацыі і вучоту.

1) Становішча гандлёва-тэхнічнай базы—складзкой і крамнай гаспадаркі характарызуецца гранічнай зношанасьцю, пераважна непрыстасаваных да запатрабаваньняў організацыі гандлю ў сучасных умовах памяшканьняў.

2) Капіталаўкладаньне праходзіць далёка ў недастатковай ступені ў параўнаньні з тымі мінімальнымі запатрабаваньнямі, якія высоўваюцца фактам пашырэньня асартымэнту, павялічэньня звароту і павышэньня запатрабаваньня спажыўца да якасьці гандлю.

3) Будаўніцтва праходзіць па-за плянавым кіраўніцтвам Саюзаў і абаснаваньня яго тэхнічнымі і эканамічнымі матар'яламі, якія-б даказвалі мэтазгоднасьць укладаньня капіталу па асобных аб'ектах.

4) Рацыяналізатарская работа разгорнута недастаткова:

а) Транзітны завоз у спажыўтаварыствы—12,1 проц.; сур'ёзныя зрушэньні ў гэтым пытаньні могуць быць адзначаны ў Гомсаюзе, дзе практыка куставаньня атрымала сваё разьвіцьцё, завоз гэтакіх тавараў, як мануфактура, дасягае 52 проц. усяго завозу ў Гомельскі саюз.

б) Сыстэма заказаў і камісыйная работа Саюзаў не разгорнута.

в) Падрыхтоўка тавараў да продажу, тэхніка водпуску іх спажыўцу, унутранае абсталяваньне гандлёвых памяшканьняў—далёка неўдасканалена. Усё гэта знайшло выраз у недастатковай прапускной здольнасьці крам—чаргах, нявыгодах спажыўца пры атрыманьні тавару, перагрузцы прадаўцоў.

г) Вучот апэрацый наогул і ў прыватнасьці пайшчыкаў і паенакапленьня пастаўлены недастаткова чотка, дзякуючы гэтаму прыкмячаецца адставаньне рахункаводзтва, затрыманьне ў складаньні справаздач, вялікая колькасьць памылак, перагрузка работы нізавога рахунковага апарату.

## д) У галіне плянаваньня і інструктарскай работы.

1) Плянаваньне работы спажыўтаварыстваў ня стала да гэтага часу практычнай неабходнасьцю для нізавых работнікаў. Пляны часта не складаюцца, а будучы складзены, не заўсёды скарыстоўваюцца ў бягучай рабоце, вынікі выконваньня ў рэдкіх выпадках абгаварваюцца на пасяджэньнях праўленьня і актыву.

2) Інструктарскі апарат у дастатковай меры яшчэ не замацованы, наглядаецца цякучасьць яго складу.

Акрамя гэтага плянавасьць работы інструктароў, нармальнае і сыстэматычнае нагляданьне і кіраўніцтва работай сеткі з іх боку да гэтага часу ў дастатковай меры не забясьпечваецца.

## III. Далейшыя задачы.

Супольнасьць праблем, стаячых перад коопэрацыяй, вызначае характар напрамку організацыйнай працы на бліжэйшы пэрыяд і ў асноўным заключаецца ў наступным:

1. Давесьці організацыю насельніцтва і яго матар'яльны ўдзел у коопэрацыі (коопэраваньне, паі) да ступені той фактычнай ролі, якую спажыўсыстэма займае ў народнай гаспадарцы, у бюджэце кожнага спажыўца.

2. Стварыць рашучы пералом у адносінах разьвіцьця шырокай коопэрацыйнай грамадзкасьці, большай органічнай сувязі пайшчыка з коопэрацыяй, яго ўдзел ва ўсім коопэрацыйным будаўніцтве, з узмацненьнем кантролю пайшчыка над дзейнасьцю коопэратыву.

3. Пашырыць сыстэму культурна-асьветных і бытавых мерапрыёмстваў, зрабіўшы гэтым практычны крок да разварочваньня культурнай рэвалюцыі на вёсцы.

4. Забясьпечыць найбольш шпаркі пераход спажыўсыстэмы, шляхам рацыяналізацыі тэхнікі і мэтадаў работы і павышэньня тэхнічнай базы разьмяркаваньня, да найбольш простых і эканамічна-мэтазгодных форм таварнага абслугоўваньня спажыўца.

5. Глыбей укараніць элемэнты строгай плянавасьці ва ўсіх галінах коопэрацыйнай работы. Дасягнуць большай сумеснай увязкі ў рабоце асобных зьвеньняў сыстэмы і замацаваць гэтым унутрыкоопэрацыйную дысцыпліну.

## а) У галіне коопэраваньня.

1) У прадстаячым гаспадарчым годзе коопэраваць 102,5 тыс. чал., тым самым давесьці ступень ахопу двароў да 65,6 проц. і падцягнуць у адносінах коопэраваньня адстаючыя раёны Беларусі.

2) У галіне коопэраваньня беднаты стаіць задача вялізарнай палітычнай значнасьці—коопэраваць у працягу 2-х год усе бядняцкія гаспадаркі; з гэтай мэтай у працягу 1928/29 г. з агульнага ліку ў 102,5 тысячы чалавек неабходна коопэраваць 50 тыс. беднаты, давёўшы процант коопэраваньня да 84,8 проц.

3) Задача ўзмацненьня коопэраваньня і актывізацыі жанчын і моладзі патрабуе разгортваньня работы па коопэраваньню другіх сяброў сямей пайшчыкаў беднякоў, батракоў і сераднякоў на ўмовах 20-проц. ўзносу паю, дапускаючы пры гэтым для батрацка-бядняцкіх груп коопэраваньне за лік ФКБ з растэрміноўкай узносу ад 3-х да 5-ці год. У працягу 1928/29 г. павінна быць коопэравана 17 тысяч другіх сяброў сям'і.

4) Новай задачай, у сувязі з ростам колектыўных гаспадарак у вёсцы, зьяўляецца пытаньне абслугоўваньня спажывецкіх патрэб сяброў комун. Найбольш мэтазгоднай формай абслугоўваньня зьяўляецца ўступленьне іх цэлым колектывам, як юрыдычных асоб.

5) Аснаўным момантам, вызначыўшым у агульным пасьпяховую работу па коопэраваньню, зьявіўся ўзяты курс на пераважнае абслугоўваньне організованага спажыўца. Найбольш мэтазгоднымі мерапрыёмствамі ў гэтых адносінах, якія павінны быць замацованы і паглыблены ў практыцы далейшай работы, зьяўляюцца наступныя:

а) Пераважнае тавариае забесьпячэньне пайшчыка (водпуск вострадэфіцытных тавараў толькі пайшчыкам, большая норма водпуску шэрагу тавараў, унечарговасьць).

б) Пераважнае культурна-бытавое абслугоўваньне (ясьлі, пляцоўкі, забесьпячэньне вучэбнымі прыладамі дзяцей пайшчыкаў, кіно, спэктаклі, армовыя альбо па паніжаных для пайшчыкаў цэнах).

в) Прадстаўленьне пайшчыкам, пераважна беднякам, работы ў коопэратыве (хурманкі, работы па найму).

6) Поўнае і паступовае правядзеньне стымулаў матар'яльнай зацікаўленасьці ў сучасны момант, калі перад намі стаіць задача організацыі найбольш адсталых і недастаткова грамадзка апрацованых пластоў насельніцтва, становіцца сугубай неабходнасьцю.

7) Разам з гэтым неабходна палепшыць пастаноўку плянаваньня і вучоту коопэраваньня і разьвіцьця грамадзка-коопэрацыйнай работы па вярбоўцы новых пайшчыкаў.

8) З мэтай дасягненьня гэтага неабходна практыку складаньня гадовых і квартальных кантрольных лічбаў коопэраваньня па сыстэме кожнага Саюзу перанесьці і ў нізоўку, складаючы пляны па раёнах і асобных пунктах коопэратываў; правадзіць штомесячна вучот іх выкананьня. Зьвярнуць большую ўвагу на правядзеньне растлумачальнай работы на сходах пайшчыкаў, упаўнаважаных, адчыненых пасяджэньнях праўленьняў. Апраўдаўшы сябе вопыт спэцыяльных групавых сходаў некоопэраванага насельніцтва ў раёнах з слабай арганізаванасьцю спажыўца павінен заняць пэўнае месца ў сыстэме мерапрыемстваў па коопэраваньню. Разам з гэтым, у гэтай справе павінна быць узвышана роля саміх пайшчыкаў, у асаблівасьці актыўнага асяродку іх. Сыстэма індывідуальнай апрацоўкі, практыка індывідуальных заданьняў павінны атрымаць неабходнае разьвіцьцё.

Коопасьвет і агітработа павінны ў вядомай меры служыць мэце павышэньня коопэраваньня і паянакапленьня—канкрэтна гэта павінна знайсьці сваё выражэньне ў вывешваньні лёзунгаў, справаздач, плякатаў, пастаноўцы коопсьпяктакляў, коопэрацыйных кінофільмаў, правядзеньні лекцый, гутарак і г. д.

9) З мэтай пасьпяховага выкананьня пляну коопэраваньня беднаты ў 1928-29 г. патрабуецца стварэньне фонду ў 250 тыс. руб. і забясьпячэньне арганізаванасьці і плянамернасьці гэтай работы.

Для гэтага неабходна:

а) Павялічыць адлічэньні ў фонд ад прыбытку спажыўтаварыстваў і Саюзаў замест 10 проц. да 15 проц.

б) Забясьпечыць своечасовасьць пагашэньня выданых пазычак, шляхам накіроўваньня ўзносаў выключна на пакрыцьцё абязацельстваў, даручыўшы БКС распрацаваць пытаньне аб даўзносе рэшты паю.

в) У коопэратывах, дзе маюцца дастатковыя фонды для коопэраваньня бядняцкіх гаспадарак раёну, лічыць магчымым скарыстаньне часткі фонду на коопэраваньне батрацка-бядняцкай моладзі—другіх сяброў сям'і.

г) Коопэраваньне беднаты павінна насіць шырока-грамадзкі характар; неабходна цесная ўвязка з мясцовымі арганізацыямі (КСУ і інш.), у справе арганізацыі спэцыяльных сходаў і груп беднаты, пры дапамозе якіх дабівацца максымальнага разьвіцьця грамадзкай самадзейнасьці.

д) Работа па коопэраваньню беднаты патрабуе ўнясеньне ў яе элемэнтаў вучоту і плянавасьці. У 1928/29 годзе павінен быць уведзены штомесячны вучот руху фондаў, ступені ахопу і тэмпу коопэраваньня бядняцкіх гаспадарак у кожным раёне—на грунце гэтых зьвестак праводзіць гібкае манэўраваньне фондам Саюзу.

10. У галіне работы сярод моладзі неабходна правесьці: пастанову III Сходу Ўпаўнаважаных БКС аб ільготным паі, рашучае высоўваньне актыўнай моладзі ў органы кіраўніцтва, кантролю і наглядаваньня, прыцягненьне моладзі для правядзеньня культурна-асьветнай работы, сьвятаў, кампаній і г. д.

Разам з гэтым моладзь павінна быць ахоплена сыстэмай культурна-асьветных мерапрыемстваў спажыв. таварыстваў (гурткі, курсы, гутаркі). Організацыйнае кіраўніцтва работай сярод моладзі павінна ажыцьцяўляцца праз інструктарскі апарат, у самым жа Саюзе гэта работа ўскладаецца на аднаго з работнікаў оргаддзелу па ўзгадненьню з органамі ЛКСМБ.

11. Практычныя мэтады работы па ўцягненьню новых пайшчыкаў і плянаваньню гэтага працэсу павінны выходзіць з таго асноўнага становішча, каб забясьпечыць організаванасьць і паступовую інтэнсыўнасьць у яе правядзеньні, забясьпечыўшы гэтым поўную рэалізацыю кантрольных лічбаў на наступны гаспадарчы год.

## б) У галіне коопэрацыйнай грамадзкасьці і масавай работы.

1) Проблема далейшага разьвіцьця коопэрацыі неразрыўна зьвязана з процэсам органічнага перарастаньня колькаснага разьвіцьця спажыўсыстэмы ў якасны яе рост. Такое разьвіцьцё немажліва без «сапраўднага ўдзелу сапраўдных мас» у коопэрацыйным будаўніцтве, бяз росту коопэрацыйнай грамадзкасьці, бяз росту ўдзельнай вагі беднаты і батрацтва, без стварэньня рашучага пералому ў галіне масавай і коопасьветработы, да гэтых пор адстаўшай ад узроўню грамадзкіх запатрабаваньняў.

2) У наступаючым годзе неабходна дабіцца большага разьвіцьця актыўнасьці і самадзейнасьці коопэраванага насельніцтва і ў асабліваасьці організацыі і згуртаванасьці коопэраванага актыву, больш блізкага прыбліжэньня коопэрацыйнага апарату да масаў. З гэтаю мэтаю н е а б х о д н а:

а) Забясьпечыць поўную колегійнасьць работы кіраўнічых і кантрольных органаў шляхам дасканалага падбору кандыдатур, вядзеньня сыстэматычнай работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадру коопэрацыйных работнікаў. Дабіцца рэгулярнасьці скліку пасяджэньняў праўленьня. Неабходна стаць на шлях больш рашучага высоўваньня жанчын і моладзі на кіруючую работу, пачаўшы ўжо цяпер падрыхтоўку кандыдатур, прыцягненьне іх да коопэрацыйнай работы і іх шырокай популярызацыі.

б) Ажывіць і палепшыць работу масавых органаў грамадзкага кіраўніцтва і кантролю—упаўнаважаных, крамкамісій, рэўкамісій—паставіўшы ў парадак дню задачу конкрэтнага і больш сыстэматычнага кіраўніцтва іх работай. Разгарнуць шырокую самадзейнасьць і крытыку недахопаў коопэрацыйнай работы. Пэрыядычна праводзіць канфэрэнцыі лаўкамісій, больш хутка і чотка рэагіраваць на пытаньні, якія падымаюцца пайшчыкамі, органамі грамадзкай самадзейнасьці і друкам.

в) Больш шырока паставіць справаздачнасьць і наогул работу коопэрацыйных органаў у масе—больш часты склік раённых сходаў з пастаноўкай інфармацыйна-справаздачных дакладаў, склік нарад жанкоактыву, спэцыяльных сходаў беднаты, моладзі, групавых сходаў пайшчыкаў з пастаноўкай на іх дакладаў праўленьняў, рэўкамісій, упаўнаважаных дэлегатак. Папулярызаваць і асьвятляць работу коопэратываў у друку, насьценных справаздачах, газэтах і г. д.

## в) Культурна-асьветная і бытавая работа.

1) Вялікі наплыў масы пайшчыкаў і ўзяты курс на разгортваньне культурнай рэвалюцыі ставіць ва ўвесь узрост задачу ўзмацненьня коопасьветработы. Пастановамі сходаў упаўнаважаных БКС пашырана фінансавая база для вядзеньня гэтай работы; неабходна ў далейшым праводзіць плянавае і мэтазгоднае выдаткаваньне культ-асьвет-фондаў.

2) Перад оргпалітасьветкамісіямі стаіць задача наладзіць плянавую масавую культ-асьветную бытавую работу, асноўнымі формамі якой павінны зьявіцца: коопгутаркі, лекцыі, экскурсіі, організацыя даведчых сталоў, правядзеньне агітсудоў, пастаноўка спэктакляў і г. д.

3) Паглыбленьне і павышэньне коопэрацыйных ведаў пайшчыкаў павінна пайсьці праз ахоп іх сыстэмай коопэрацыйных гурткоў, для правядзеньня якіх неабходна падрыхтаваць адпаведны кадр кіраўнікоў. Падрыхтоўка коопэрацыйнага актыву павінна праводзіцца праз каротка-тэрміновыя курсы (5—7 дзён).

4) Разам з гэтым факт недастатковай кваліфікацыі нізавых работнікаў ставіць пытаньне аб паглыбленай і сыстэматычнай рабоце па іх перападрыхтоўцы як праз курсы, так і шляхам разьвіцьця завочнага навучаньня. Коопэрацыйны тэхнікум, школы з коопэрацыйным ухілам павінны падрыхтаваць новыя кадры работнікаў для нізоўкі. Асабліва зьвярнуць увагу на работу практыкантаў і стажораў.

5) Спажыўкоопэрацыя павінна сыграць асноўную ролю ў кіно і радыёфікацыі вёскі, у працягу бліжэйшага году ў вёсцы павінна быць арганізована 34 коопэрацыйных кіно-перасоўкі і падрыхтован кадр кіно-работнікаў. Работа ў Саюзе павінна быць ускладзена на спэцыяльных кіно-інструктароў.

6) У галіне кніга-гандлю коопэрацыя павінна заняць асноўнае мейсца ў прасоўваньні кнігі ў вёску. Канкрэтнай задачай на прадстаячы год зьяўляецца арганізацыя 22-х новых крам, 56 кніжных аддзелаў і 295 паліц. Зварот, як мінімум, павінен быць вызначаны ў 375 тыс. руб. Неабходна працягваць работу па падрыхтоўцы кніжных работнікаў, па павышэньню якасьці гандлю, узяць цьвёрды курс на прасоўваньне кнігі ў глыбінныя пункты раёнаў спажыўтаварыстваў.

7) Адным з важных пытаньняў ёсьць пытаньне організацыі бытавых установ. Неабходна з прыбытку 1927/28 г. стварыць спэцыяльны фонд для організацыі гэтых установ. Агульны плян організацыі па раёнах і саюзах павінен распрацоўвацца організацыйным кіраўніцтвам.

8) Аднача́сова з гэтым на коопэрацыю ўскладаецца вялікая роля ў стварэньні культурнага адпачынку насельніцтва—організацыя коопэрацыйных чайных з правядзеньнем у іх пэўнай коопасьветработы.

9) Культасьветработа спажыўкоопэрацыі павінна праводзіцца ў цеснай увязцы з агульнай коопасьветнай работай у вёсцы (супольнае правядзеньне сьвятаў, кампаній), аднак гэта ні ў якай меры не павінна нарушыць прынцып самастойнай коопэрацыйнай работы ў галіне коопэрацыйнай адукацыі і масавай работы.

## г) У галіне рацыяналізацыі.

1) Запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца да організацыі гандлю, да якасьці таварнага абслугоўваньня, у сучасны момант узрасьлі да такой ступені, калі спажыўсыстэма павінна рашуча стаць на шлях радыкальнага палепшаньня сваёй работы, шляхам рацыяналізацыі ўсіх працэсаў работы і організацыйнага будаўніцтва.

2) Неабходнасьць рацыяналізацыі патрабуе раней за ўсё павышэньня тэхнічнай базы (складзкой і крамнай гаспадаркі). Гэтая справа патрабуе плянавай організацыі ў сыстэме, на грунце цьвердага рэгуляваньня саюзамі сыстэмы аб'яднаемых імі зьвеньняў (Райсаюзы-сельСТ, БКС-Райсаюзы і ЦРК).

3) Разам з гэтым павышэньне тэхнічнай базы прадзначае ўкладаньне вялізарных сум у капітальнае будаўніцтва. Гэтыя абставіны дыктуюць неабходнасьць стварэньня спэцыяльных фондаў (ФДК), ажыцьцяўляць мерапрыемствы па капітальнаму ўкладаньню ў кожнай даннай організацыі, выходзячы з фінансавых магчымасьцяй і разьмераў, атрыманых доўгатэрміновых пазык.

4) Разьмеры будаўніцтва вызначаюцца зводнымі плянамі сыстэмы. Канкрэтна,—пляны капітальнага будаўніцтва і разьмеры яго па спажыўсыстэме павінны вызначацца БКС, тэхнічная консультацыя па гэтым пытаньням павінна концэнтравацца ў спэцыяльна організованым Будаўнічым бюро Б. К. С.

5) У галіне вучоту і плянаваньня асноўнымі задачамі зьяўляюцца: з аднаго боку, павышэньне рахунковай і статыстычнай дысцыпліны і, з другога, далейшая работа па спрашчэньню і ўніфікацыі форм вучоту плянаваньня і справаздачнасьці. У сувязі з гэтым неабходна:

а) Дабіцца, шляхам падняцьця кваліфікацыі рахункаводнага апарату, спрашчэньня сыстэмы рахункаводзтва, справаздачнасьці, правідловага адбітку ўсёй супольнасьці гаспадарча-коопэрацыйных працэсаў і наладзіць своечасовы і нармальны абмен інфармацыйна-справаздачнымі матар'яламі ўнутры сыстэмы.

б) Інструктарскі апарат Саюзу павінен зьявіцца сапраўдным організатарам і будаўніком плянавага коопэрацыйнага гаспадарчага вучастку; адгэтуль рэгулярнасьць і рэальная тэхнічная консультацыя і кіраў-

ніцтва плянаваньнем, пастаноўкай вучоту і справаздачнасьці ў кожнай асобнай арганізацыі павінны стаяць у шэрагу асноўных задач.

в) У галіне рацыяналізацыі стаяць задачы далейшага ўдасканаленьня тэхнікі работы і кіраўніцтва, пытаньні арганізацыйнага будаўніцтва, маючага мэтай пабудову эканомнай сыстэмы грамадзкага гандлю. Пасьпяховае выконваньне вялізарнейшых задач у галіне рацыяналізацыі ставіць пытаньне аб неабходнасьці выдзяленьня кадру інструктароў-кансультантаў ва ўсіх саюзных арганізацыях, на якіх ускласьці рацыяналізатарскую работу.

## д) У галіне мобілізацыі сродкаў насельніцтва.

1) Асноўнай устаноўкай, вызначаючай задачы органаў у адносінах фінансавай гаспадаркі, зьяўляецца курс на максымальнае ўцягненьне сродкаў насельніцтва на фінансаваньне зваротаў коопэрацыі ў выглядзе паёў, укладаў і авансаў.

2) Задача на новы гаспадарчы год сабраць па нізавой сетцы 2.611 тыс. руб. паявых капіталаў і давесьці сярэдні пай да 9 руб. Такі тэмп збору паявых капіталаў дапушчае правядзеньню напружанай работы як арганізацыйнага апарату Саюзаў, так і работнікаў нізавой сеткі, патрабуе прыцягненьня да гэтай справы шырокай коопэрацыйнай грамадзкасьці.

3) Найбольш мэтазгоднымі мерапрыемствамі ў галіне збору паёў, апраўдаўшымі сябе ў мінулым годзе і якія павінны быць замацованы ў далейшым, зьяўляецца практыка заданьняў (Саюз спажыўтаварыства-крама) і сыстэматычны кантроль і кіраўніцтва за іх выкананьнем. Неабходна ўстанаўленьне точных тэрмінаў пагашэньня кожным пайшчыкам сваёй паявой запазычанасьці. Рассылка напамінаньня, вывешваньне плякатаў, лёзунгаў, аб'яў, ажыцьцяўленьне пастаяннага кантролю за пагашэньнем запазычанасьці прыказчыкамі ў краме праз упаўнаважаных, крамкамісіі, у канторы (карткавы вучот),—усе гэтыя мерапрыемствы, як садзейнічаючыя разгортваньню і пасьпяховаму ходу работы па збору паёў павінны атрымаць неабходнае разьвіцьцё.

4) Актуальнай праблемай у сувязі з неабходнасьцю ўзмацненьня фінансавай базы коопэрацыі і ўвязкі разьмераў паявых узносаў пайшчыкаў са ступеньню гаспадарчага абслугоўваньня асобных сацыяльных груп насельніцтва зьяўляецца пытаньне ўвядзеньня новай сыстэмы паявых узносаў, аснованай на прынцыпе ўстанаўленьня дыфэрэнцыраваных разьмераў. Гэтае пытаньне павінна быць прапрацована, павінна атрымаць юрыдычную законнасьць і ў пэрыяд надыходзячай перавыбарчай кампаніі ўведзена ва ўсіх спажыўтаварыствах Беларусі.

5) Аднэй з крыніц фінансаваньня зваротаў зьяўляецц уклады. Апошняе законадаўчае палажэньне замацавала за спажыўсыстэмай гэтую работу. Неабходна толькі правядзеньне адпаведнай работы па разьвіцьцю гэтых опэрацый.

## е) У галіне інструктарскай работы.

1) Гаспадарчае разьвіцьцё сеткі, рост яе, як масавай грамадзкай арганізацыі, неабходнасьць далейшага якаснага паляпшэньня работы прад'яўляе сур'ёзныя запатрабаваньні да павышэньня якасьці работы інструктарскага апарату. У надыходзячым годзе неабходна п р а в е с ь ц і:

а) Павышэньне кваліфікацыі інструктароў, шляхам правядзеньня курсаў, нормальнай арганізацыі працы інструктароў, забясьпечваючы яму 4-5 дзён у месяц на адпачынак і падрыхтоўку. Саюзы павінны забясьпечыць інструктароў неабходнай кіруючай літаратурай і матар'яламі.

б) Забясьпечыць мэтадычнае кіраўніцтва работай інструктароў праз консультантаў саюзаў, шляхам рэгулярнай работы інструктарскай камісіі, правядзеньнем мэтадычных дакладаў інструктароў, скліканьнем нарад і г. д.

в) У практыцы абслугоўваньня нізоўкі неабходна адмовіцца ад агульных абсьледваньняў і наладзіць плянавыя, па распрацаваным праграмам, мэтавыя абсьледваньні, прычым, у правядзеньні іх, а ў асаблівасьці рэвізый, роля інструктара павінна быць вызначана, як организатара работай, перакладваючы тэхнічную работу на рэвізыйныя камісіі.

г) Ускладненьне гаспадаркі спажывецкіх таварыстваў патрабуе ўзмацнёнага і сыстэматычнага нагляданьня інструктароў за работай спажывецкіх таварыстваў вучастку. Гэта абставіна патрабуе правільнай організацыі бягучага нагляданьня, скарачэньня прабываньня на вучастку да 15-ці дзён у месяц і прадстаўленьня інструктару больш праў і самадзейнасьці ў яго рабоце на вучастку. Разам з гэтым, адказнасьць за работу спажывецкіх таварыстваў павінна быць ускладзена на інструктарскі апарат Саюзаў.

## ж) У галіне адзінства і ўнутрыкоопэрацыйнай дысцыпліны.

1) Складанасьць і адказнасьць задач, якія ўскладаюцца на коопэрацыю, патрабуе ўнясеньня большай адказнасьці і адзінства ўнутры сыстэмы. Узмацненьне ўнутрыкоопэрацыйнага рэгуляваньня і адказнасьці за выконваньне пастаўленых задач, узмацненьне кіруючай ролі вышэйстаячых зьвеньняў ніжэйстаячымі, пашырэньне практыкі ўзаемнай інфармацыі і абмену вопытам—усе гэтыя моманты павінны весьці да ўзмацненьня адзінства і дысцыпліны сыстэмы.

---

*Зацьверджана Праўленьнем Белкоопсаюзу 31/X-28 г., прат. № 26/156.*

## Дасягненьні і далейшыя задачы ў галіне рацыяналізатарскай работы ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі БССР.

### *(Рэзолюцыя па дакладу тав. Валкавіцкага).*

1) Рост коопэрацыйнай гаспадаркі, выкананьне ролі асноўнага тавараправодзячага каналу ў савецкай народнай гаспадарцы і неабходнасьць найбольшага паляпшэньня і патаненьня коопэрацыйнага абслугоўваньня ставяць перад спажывецкай сыстэмай вельмі важную і сур'ёзную проблему далейшага вывучэньня і рацыяналізацыі тэхнікі і мэтадаў работу з мэтаю дасягненьня найбольшых вынікаў і эфэкту па ажыцьцяўленьню спажывецкай коопэрацыяй яе асноўных задач.

2) Рацыяналізатарскія мерапрыёмствы ў асноўным павінны ахапіць наступныя моманты: рацыяналізацыя складзкога і крамнага будаўніцтва і стварэньне нормальнай сеткі, рацыяналізацыя сыстэмы і тэхнікі таварапрасоўваньня і дакумэнтацыі, нормальная пабудова балянсу, правільнае разьмеркаваньне сродкаў, рацыяналізацыя структуры апарату і працэсаў працы.

3) Спажывецкая коопэрацыя Беларусі на ўсіх сваіх зьвеньнях мае за апошні час дасягненьні ў частцы патаненьня сабекошту тавараў і мэтадаў прасоўваньня іх да спажыўца.

4) Праведзеная рацыяналізацыя і перабудова сеткі па лініі ўзбуйненьня шматкрамных спажыўтаварыстваў за лік злучэньня няжыцьцёвых і стратных коопэратываў, пры адначасовым пашырэньні і павялічэньні колькасьці гандлёвых адзінак,—у сваей большасьці дапамагала скарачэньню выдаткаў і патаненьню сабекошту тавараў; на I/X-26 г. мелася 686 С. Т. з колькасьцю крам 1732, на I/X-27 г.—653 С. Т. з колькасьцю крам 1800 і на I/VII-28 г.—584 з колькасьцю крам 1893. Зьмяншэньне колькасьці С. Т. на I/VII у параўнаньні з I/X-26 г. на 14,9 проц. Павялічэньне колькасьці крам на 9,3 проц.

5) Гэткія-ж посьпехі дасягнуты ў галіне пабудовы саюзнай сеткі. Пры наяўнасьці росту звароту ў 1-м паўгодзьдзі 27-28 году на 43,1 проц.

ў параўнаньні з 26-27 г. г. дасягнута скарачэньне адм.-кіраўнічых выдаткаў на 32.377 руб., ці на 9,9 проц. нізавой сетцы пры ўзросьце звароту на 32.1 проц. дасягнута скарачэньне адм.-кіраўнічых выдаткаў на 6,1 проц. Агульна-гандлёвыя выдаткі па нізавой сетцы ў 26-27 г. да звароту тавараў складалі 8,74 проц., у першым паўгодзьдзі 27-28 г. яны складаюць 7,82 проц.

6) Прыкметныя дасягненьні маюцца ў мэтадах забясьпячэньня таварамі саюзнай сеткі з боку БКС. Транзітныя опэрацыі ў зваротах БКС займалі ў 26-27 г. 93,6 проц. Па лініі забясьпячэньня нізавой сеткі з боку саюзаў транзітны завоз непасрэдна ў спажыўтаварыствы пакуль займае 12,1 проц.

7) Аднак проблема рацыяналізацыі яшчэ не атрымала дастатковага адбітку ў сыстэме спажыўкоопэрацыі, аб чым сьведчыць наяўнасьць выпадкаў мэханічнай урэзкі выдаткаў за лік памяншэньня разьмераў прыбытку.

8) Далейшае скарачэньне выдаткаў звароту ў сыстэме спажыўкоопэрацыі ў колькі-небудзь прыкметным выглядзе немагчыма без самай сур'ёзнай пастаноўкі і вырашэньня проблемы рацыяналізацыі коопэрацыйнай работы ва ўсіх яе выглядах і зьвеньнях. Пры гэтым, галоўнай устаноўкай рацыяналізатарскай работы павінна стаць павышэньне якасьці коопэрацыйнай работы, як дапамагаючае паляпшэньню і патаненьню коопэрацыйнага абслугоўваньня.

9) Уся рацыяналізатарская работа павінна праводзіцца на пачатках плянавасьці, паступовасьці і строгага вывучэньня асобных процэсаў работы. На кожны пэрыяд часу оргаддзеламі павінны складацца пляны работ па рацыяналізацыі як у сваім саюзе, так і па нізавой сетцы. Рацыяналізацыя павінна стаць асноўнай функцыяй усяго апарату ў процэсе штодзённай работы.

10) Для вязденьня рацыяналізатарскай работы ў саюзах, апошнімі функцыі па рацыяналізацыі павінны быць ускладзены на аднага працаўніка з кадру інструктароў, які праводзіць работу на рацыяналізацыі пад кіраўніцтвам оргаддзелаў з удзелам апарату, шляхам распрацоўкі і пастаноўкі дакладаў аб канкрэтных мерапрыёмствах па рацыяналізацыі на інструктарскіх нарадах і эканомкамісіі.

У первічнай сетцы рацыяналізатарская работа павінна праводзіцца пад непасрэдным кіраваньнем раённых і вучастковых інструктароў, прыцягваючы да актыўнага ўдзелу шырокія масы пайшчыкаў.

11) У мэтах заахвочваньня ініцыятывы служачых і рабочых да справы паляпшэньня і ўдасканаленьня работы апарату стварыць фонд на прэміраваньне за каштоўныя прапановы, вынаходкі і ўдасканаленьні. Крыніцы фінансаваньня фонду павінны быць з адначасных адлічэньняў з асноўных сродкаў у разьмеры ад 0,2 проц. да 0,5 проц. да гадовага фонду зарплаты і з адлічэньня ад дапушчальнай гадавой эканоміі ад ажыцьцяўленьня кожнай прапановы ў наступных разьмерах: пры гадавой эканоміі да 1.000 руб.—20 проц. сумы эканоміі, пры гадавой эканоміі 1.000 руб. да 10.000 р.—10 проц., звыш 10.000 размер павінен вызначацца экспэртнай камісіяй. Фонд павінен быць створаны і выдаткоўвацца ў цэнтралізованым парадку па простаму прызначэньню.

Далейшыя і асноўныя мерапрыемствы ў галіне рацыяналізатарскай работы павінны праходзіць у наступных напрамках:

1. У вывучэньні пытаньня коопэрацыйнага будаўніцтва пад кутом погляду стварэньня рацыянальнай сеткі коопэратываў.

2. У рацыяналізацыі крамнага ўстройства і будаўніцтва пад кутом погляду стварэньня стандартаў разьмяшчэньня тавараў у краме, стандартаў прылаўкаў, павялічэньня плошчы полу для пакупнікоў. У выяўленьні найболыш мэтазгодных тыпаў магазынаў і ў распрацоўцы стандартаў іх памяшканьняў.

3. У рацыяналізацыі працы работнікаў прылаўку: організацыя папярэдняга разважваньня тавараў (фасоўка), забясьпячэньне магазынаў

вагамі, лічэбнымі і іншымі прыладамі. Забясьпячэньне стандартнымі меркамі для сыпучых і вадкіх тавараў. Увядзеньне ў практыку парадку найму штата для работы ў гадзіны найбольшага наплыву пакупнікоў. Распрацоўка цьвердых штатаў і норм нагрузкі. Вывучэньне пытаньня аб нормах трат, браку і псаваньня тавараў, завесу тары і ўпакоўкі.

4. У рацыяналізацыі складзкое гаспадаркі саюзаў, найбольш эканомнае скарыстаньне іх плошчы і кубатуры. Рэорганізацыя складзкое гаспадаркі на аснове пабудовы новых уласных памяшканьняў, набліжэньня іх да чыгуначных дарог.

5. У рацыяналізацыі процэсаў прыёмкі і водпуску тавараў вывучэньне процэсу выпіскі фактур, прахаджэньня іх. Увядзеньне найбольш мэтазгодных сыстэм падзелу працы паміж апаратам. Устанаўленьне вызначаных стандартаў па опэрацыям прыёму і водпуску тавараў.

6. У рацыяналізацыі працы рахунковага і канцэлярскага апарату, выпрацоўка норм нагрузкі. Увядзеньне зручнай і рацыянальнай кантОрскай абстаноўкі. Вэнтыляцыя памяшканьняў. Разьмяшчэньне рахунковых работнікаў. Процэс апрацоўкі докумэнтаў. Пераход ад няўкладзістага кніжнага вучоту на тыя ці іншыя сыстэмы бяскніжнага вучоту. Рэорганізацыя ўсяго справаводзтва на пачатках ліквідацыі парадку рэгістрацыі папер і пераходу на новыя сыстэмы.

7. У рацыяналізацыі асобных процэсаў вучоту ў сельскіх спажыўтаварыствах; пэравод асобных опэрацый вучоту на карткавую сыстэму. Перавод у больш буйных СТ рахункаводзтва на сыстэму бяскніжнага вучоту.

8. У рацыяналізацыі закупачных опэрацый С. Т., пісьмовыя і тэлеграфныя заказы, пасылка хурманак, пасылка за таварамі асобных работнікаў прылаўку. Устанаўленьне стандарту заказаў. Вучот выпаўненьня заказаў. Устанаўленьне вызначаных дзён водпуску тавараў для кожнага спажыўтаварыства.

9. У распрацоўцы мерапрыемстваў па пасіленьню транзітнага завозу тавараў, вывучэньне ўмоў выгаднасьці транзіту для тых або іншых раёнаў. Вывучэньне магчымасьці куставаньня коопэратываў і мэтадаў такога куставаньня. Вывучэньне ўмоў і тэхнікі разьліку—працягласьць крэдыту.

10. У стандартызацыі процэсаў водпуску і прыёмкі загатовак і докумэнтацыі опэрацый па водпуску і прыёмцы. Выпрацоўка норм нагрузкі апарату загатоўчых пунктаў.

11. У распрацоўцы пытаньня аб таварных запасах у складах і магазынах, мэтадах вызначэньня іх мінімальных разьмераў. Спрашчэньне ўмоў разьліку з нізавымі зьвеньнямі. Вывучэньне мэтадаў лімітаваньня крэдытаў нізавым зьвеньням сыстэмы.

12. У вывучэньні структуры саюзнай сеткі і ўзаемаадносін з вышэйстаячымі коопэрацыйнымі організацыямі і ўстановамі, а таксама насельніцтвам.

13. У дасьледваньні фактараў, вызначаючых хуткасьць звароту асобных частак актыву, вызначэньне на гэтай аснове нормальных хуткасьцяў звароту гэтых частак. Нормаваньне велічыні маёмасьці. Нормальная пабудова балянсу. Вывучэньне пытаньня аб нормах накладаньня па асобным групам тавараў з мэтай захаваньня нормальнага прыбытку.

14. У рацыяналізацыі процэсаў работы інструктарскага апарату. Нормы нагрузкі. Падлік работы. Парадак рэалізацыі матар'ялаў.

15. У вывучэньні і ўстанаўленьні пэўнай сыстэмы аплаты працы.

16. У вывучэньні пытаньня аб мэтадах і формах увязкі пляпаў паміж зьвеньнямі спажыўсыстэмы.

17. У вывучэньні пытаньня ўплыву падатковага абкладаньня і ўвязкі яго з нормамі Наркамгандлю.

18. Ва ўтварэньні паказальных коопэратываў у асобных раёнах.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## Аб здавальненьні хлебам ільнаводаў.

*Пастанова Эканамічнае Нарады пры СНК БССР ад 1-га лістапада 1928 г.*

З мэтай узмацненьня разьвіцьця ільнаводзтва і пасіленьня ільнazагатовак шляхам бесьперабойнага здавальненьня хлебам гаспадарак, якія займаюцца разьвядзеньнем ільну, Эканомнарада пастанаўляе:

1. Переважную прадажу хлеба ільнаводным гаспадаркам, якія здаюць свой лён дзярж. коопэрацыі, ільназагатоўкам, увесьці ў разьмеры да 1 5 цэнтнера хлеба і 0,5 цэнтн. аўса на кожны цэнтнер зданага ільну; для ільнаводных гаспадарак, якія закантрактавалі свае пасевы ільну коопэрацыі, дапусьціць прадажу хлеба да 2-х цэнтн. і 0,5 цэнтн. аўса на кожны цэнтнер зданага па кантрактацыі ільну, а для для бядняцкіх ільнаводных гаспадарак — да 3-х цэнтн. хлеба 0,5 цэнтн. аўса на кожны цэнтнер зданага ільну, калі такая павышаная патрэба бядняцкай гаспадаркі ў хлебе будзе пасьведчана мясцовым камітэтам узаемадапамогі.

Аднак колькасьць хлеба, які прадаецца кожнай гаспадарцы, не павінна перавышаць фактычнай патрэбы гэтай гаспадаркі ў хлебе, улічваючы яе ўласныя рэсурсы.

2. Абавязаць Наркамгандлю вызначыць на правядзеньне ільназагатоўчай кампаніі ня менш 20.000 тон зернявых адзінак жытняга і пшанічнага хлеба і 5.000 тон аўса для разьмеркаваньня на працягу ільназагатоўчай кампаніі ў тэрміны ў залежнасьці ад ходу завозу хлеба ў БССР, з такім разьлікам, каб скончыць здавальненьне ільнаводаў хлебам у паказанай колькасьці за зданы лён поўнасьцю да 1 чэрвеня 1929 году.

3. Рэалізацыя гэтага хлеба ільнаводам вытвараецца праз сетку спажывецкай коопэрацыі па прыёмным квіткам, якія выдаюцца загатоўчымі пунктамі ўсіх ільназагатоўцаў здатчыкам ільну, прычым, хлеб выдаецца ўсім здатчыкам ільну бяз розьніцы і залежнасьці ад таго, якому з дзяржаўных ці коопэрацыйных загатоўцаў здан лён, і безалежнасьці ад таго, зьяўляецца здатчык пайшчыкам коопэрацыі ці не.

4. У выпадках, калі наяўная колькасьць хлеба ў той ці іншы момант зьяўляецца невыстарчальнай для здавальненьня ўсіх здатчыкаў ільну належнай ім поўнай колькасьцю хлеба, дык тады выдаецца частка наяўным хлебам з рэсурсаў, вызначаных на гэтую мэту, а на астатнюю частку выдаецца коопэрацыяй даведка аб недададзенай колькасьці, для выдачы ў наступны час, але не пазьней 1-га чэрвеня 1929 г. Форма даведкі дакладна азначаецца ў інструкцыі.

5. Устанаўленьне патрэбы ў хлебе паасобных ільнаводных гаспадарак на мясцох ускласьці на сельсаветы, а бядняцкіх гаспадарак — на камітэты ўзаемадапамогі з прыцягненьнем ільназагатоўчых організацый.

НКГандлю, сумесна з цэнтрамі ільназагатоўчых арганізацый, у тыднёвы тэрмін скласьці інструкцыю па правядзеньню ў жыцьцё гэтае пастановы, у якой прадугледзець парадак пераважвай прадажы ільнаводам дэфіцытных прамтавараў побач з хлебам і ў замену хлеба, па жаданьню здатчыка ільну.

6. Абавязаць НКГандлю тэрмінова дабіцца ў Саюзнаркамгандлю цьвёрдага замацаваньня за ільнаводнымі раёнамі БССР памянёнай колькасьці хлеба і аўса і безадкладнага забесьпячэньня поўнай адгрузкі гэтай колькасьці ў БССР у бліжэйшыя м-цы звыш бягучага завозу.

Старшыня ЭКАНА БССР *Карклін.* Сэкратар *Крывіцкі*

---

*Зацьверджана НКГандлю БССР 6-га лістапада г. г.*

## Інструкцыя па правядзеньню ў жыцьцё пастановы Эканамічнай Нарады БССР ад 1-га лістапада 1928 г. аб здавальненьні хлебам ільнаводных гаспадарак у 1928-29 г.

1. Пераважная прадажа хлеба і аўса ільнаводным гаспадаркам утвараецца толькі ў тым выпадху, калі за грошы, атрыманыя за лён, здатчык ільну абавязкова патрабуе прадаць яму хлеб, ня гледзячы на тое, што яму даецца магчымасьць пераважнай пакупкі дэфіцытных прамтавараў.

У гэтым выпадку хлеб яму прадаецца ў колькасьці, не перавышаючай нормы, паказанай у пастанове ЭКАНА, як вызначана ў арт. 2 гэтай інструкцыі.

2. Колькасьць хлеба і аўса, вызначаная ў пастанове ЭКАНА, зьяўляецца максымальнай і можа ўжывацца толькі ў адносіне ільнаводных гаспадарак раёнаў, прызнаных прамысловымі, а іменна: а) усе раёны Віцебскай і Полацкай акруг, б) Чарэйскі, Круглянскі і Ляднянскі раёны, Аршанскай акр., в) Шклоўскі і Краснапольскі раён Магілеўскай акр., г) Халапеніцкі раён Менскай акр.

Для раёнаў поўпрамысловых, а іменна: а) астатнія раёны Аршанскай і Магіл. акр., б) Бягомльскі і Плешчаніцкі раён Менскай акр., в) Сьвіслацкі, Рагачоўскі і Парыцкі раёны Бабруйскай акр., г) Веткоўскі, Уваравіцкі і Будакашалеўскі раёны Гомельск. акр.—дапушчаецца прадажа хлеба ільнаводным гаспадаркам толькі ў разьмеры 75 проц. максымальнай нормы. Для астатніх раёнаў усіх акруг пераважная прадажа хлеба і аўса, як правіла, ня ўводзіцца, але акр. інспэктарам гандлю прадстаўляецца права намеціць і прадставіць на зацьвярджэньне НКГандлю ўвядзеньне гэтага парадку і для некаторых другіх раёнаў, дзе ільнаводныя гаспадаркі, асабліва закантрактаваўшыя свой лён, маюць патрэбу ў хлебе. У гэтым выпадку прадажа хлеба таксама не павінна правышаць 75 проц. максым. нормы.

3. З прычыны дасканальнага вызначэньня цэнтрам колькасьці хлеба за здавальненьне БССР, катэгорычна забараняецца адпушчаць усякія

хлебапрадукты гаспадаркам, якія знаходзяцца за межамі БССР, нават і ў тым выпадку, калі гэтыя гаспадаркі зьяўляюцца здатчыкамі ільну.

4. Каб адхіліць магчымасьць выпадкаў спэкуляцыі здатчыкаў ільну атрыманым хлебам (перапрадажа па вольным цэнам) і не дапусьціць, каб пераважная продажа хлеба ільнаводам прыняла характар тавараабмену, забараняецца продажа хлеба здатчыку ільну ў колькасьці, перавышаючай фактычную патрэбу яго гаспадаркі, улічваючы яе ўласныя хлебныя рэсурсы.

5. Для гэтага абавязкова неабходна: а) каб патрэба ў павышанай колькасьці хлеба здатчыка-бедняка была пасьведчана мясцовым камітэтам узаемадапамогі, б) для другіх ільнаводных гаспадарак гэтая патрэба павінна быць пасьведчана сельсаветам. З прычыны таго, што сельсаветы ня справяцца праверыць усе ільнаводныя, гаспадаркі трэба, каб яны ў першую чаргу праверылі больш буйныя гаспадаркі, якія маюць буйную колькасьць таварнага ільну і патрабуюць продажы ім павышанай колькасьці хлеба. Пры гэтым сельсаветы вызначаюць прыблізны разьмер валавога ўраджаю хлеба гаспадаркі і яе запасы да пачатку сельска-гаспадарчага году; ад гэтай колькасьці адлічыць патрэбу на насеньне і, калі астачы хлеба ня хопіць на прахарчаваньне едакоў гаспадаркі да новага ўраджаю, паказаць у пасьведчаньні— колькі іменна хлеба ня хопіць, а таксама колькі таварнага ільну мае гэтая гаспадарка для здачы. Веды аб гэтых гаспадарках, якім трэба абмежаваць водпуск хлеба, у выглядзе сьпісу перадаюцца сельсаветам спаж. т-ву.

6. Прадстаўнікі асноўных ільназагатоўцаў, калі гэткія маюцца ў мейсцы знахаджэньня сельсавету, павінны быць прыцягнуты апошнім для сумеснага абмеркаваньня парадку выдачы памянёных пасьведчаньняў і вызначэньня патрэбы паасобных гаспадарак у хлебе, жадаючых атрымаць гэткае пасьведчаньне.

7. Усе ільназагатоўцы (дзярж. і кооп.) абавязаны кожнаму здатчыку ільну выдаць квіток, у якім павінна быць высьветлена— колькі здана ільну, мейсца знахаджэньня гаспадаркі і прозьвішча гаспадара. Калі лён здан гаспадаркай па кантрактацыі, дык аб гэтым абавязкова павінна быць зроблена адпаведная паметка ў квітку.

8. Рэалізацыя гэтага хлеба ільнаводам вытвараецца праз сетку спажыўкоопэрацыі.

Акруговы Спажыўсаюз павінен па атрыманьні гэтай інструкцыі, сумесна з ільназагатоўцамі і з узгадненьнем з РВК, безадкладна правесьці прымацаваньне гаспадарак кожнага сельсавету да пэўных спажыв. коопэратываў, зручных для гэтых гаспадарак да атрыманьня хлеба, такім чынам, каб усе ільнаводныя гаспадаркі аднаго сельсавету бралі хлеб толькі ў адным коопэратыве (зручнейшым), і забараніць продажу хлеба ільнаводным гаспадаркам тых сельсаветаў, якія да гэтага коопэратыву не прымацованы. Пры гэтым здача ільну можа рабіцца гаспадаркай у любым мейсцы, а закантрактаваўшыя—таму т-ву, з якім зроблен кантракт, але атрыманьне хлеба ўтвараецца толькі ў тым спажыв. коопэратыве, да якога прымацован дадзены сельсавет.

9. Нізавы коопэратыў перадае ільнаводам хлеб, кіруючыся дырэктывамі Акрспажыўсаюзу і на аснове прадстаўленых здатчыкам: квітка загатоўчага пункту аб колькасьці зданага ільну і сьпісу ці пасьведчаньня сельсавету або к-ту ўзаемадапамогі аб патрэбе здатчыка ў хлебе. Пры гэтым коопэратыў ня мае права рабіць розьніцы паміж здатчыкамі пайшчыкамі і няпайшчыкамі коопэрацыі, ці паміж здаўшымі спажывецкай коопэрацыі і здаўшымі свой лён другім ільназагатоўцам (дзярж. і коопэр.). Калі з боку спажыв. т-ваў будзе выяўлена парушэньне ўстаноўленага гэтым пунктам парадку здагальненьня ільнаводаў хлебам, дык вінаватыя асобы зьнімаюцца з работы і прыцягваюцца да адказнасьці, а ў выпадку паўтарэньня—спаж. т-ва зьнімаецца з загатоўкі валакна.

10. Пры прадажы хлеба здатчыку ільну коопэратыў павінен зрабіць на тым-жа квітку паметку—колькі хлеба прадана і колькі яшчэ можа быць прадана ў далейшым (калі поўная колькасьць ня можа быць адпушчана ў даны момант па становішчы наяўных рэсурсаў хлеба ў коопэратыве).

11. Прадажа дэфіцытных прамтавараў здатчыкам ільну ўтвараецца пераважна перад усім астатнім насельніцтвам у межах фактычнай патрэбы здатчыка, аднак ня звыш сумы каштоўнасьці тэй колькасьці хлеба, якая можа быць прадана здатчыку згодна гэтай інструкцыі. У выпадку, калі, па жаданьню здатчыка, яму выдаюцца і прамтавары і хлеб, дык агульная каштоўнасьць прамтавараў разам з каштоўнасьцю хлеба таксама не павінна перавышаць сумы каштоўнасьці нормы хлеба, падлягаючай прадажы па гэтай інструкцыі (арт. 2).

12. Гэтую інструкцыю ўвесьці ў дзейнасьць з 12-га лістапада г. г.

Наркамгандлю БССР *Адамайціс.*

## Аб парадку падачы заяў аб таварным звароце для вылічэньня прампадатку на 1928-29 год.

*Усім спажывецкім таварыствам і ЦРК БССР.*

Згодна пастановы НКФ БССР ад 23/XI-28 г. № 6 прадстаўленьне заяў аб таварным звароце за 1927-29 г.[1]) для вылічэньня поўнае сумы авансу прампадатку за 1928-28 год, адтэрмінована да 8/XII-28 г. Прапануем тэрмінова пачаць складаньне гэтае заявы, прыняўшы да заўвагі наступнае:

1. НКФ БССР 27/III і 28/XI 1928 г. за № 3120—15 паведаміў Акрфа і БКСаюз, што спажывецкія коопэратывы могуць падаваць *адну заяву* аб звароце тавару *па ўсіх сваіх крамах*, а не па кожнай паасобку. На падставе гэтае заявы вылічаецца агульная сума падатку, якая потым раскладаецца па асобных крамах (прадпрыемствах) пропорцыянальна суме *агульнага* звароту кожнае крамы.

2. На старонцы 2-й заявы ў гр. 1 даецца назва тавараў і опэрацый па кожнаму нумару расьпісаньня катэгорый [2]), а не агульны

[1]) Формы гэтых заяў дадаюцца да гэтага нумару Інформац. Бюлетэню БКС.

[2]) Расьпісаньне катэгорый гандлю і ставак падатку па кожнай катэгорыі,—друкуецца ніжэй стар. 30.

зварот па ўсёй катэгорыі, пры гэтым, у графе 2 паказваецца валавая выручка за тавар прададзены *непасрэдна з крамы.* У графе 3— валавая выручка за тавар, які быў прададзены Саюзу для рэалізацыі на каміс. падставах. У графе 4—выручка за камісыйны тавар, атрыманы коопэратывам *не ад свайго* Саюзу, у графе 5—сума камісыйнае ўзнагароды, атрыманай коопэратывам за гэты тавар. У графе 6 і 7—сума тавараў, прададзеных свайму Саюзу або здадзеных у іншыя прадпрыемствы таго-ж коопэратыву па прадажных цэнах. У графе 8—паказваецца камісыйная ўзнагарода, атрыманая коопэратывам ад пабочных устаноў за працу, напр., за распаўсюджваньне облігацый дзяржпазык і інш., а ў графе 9—узнагарода, атрыманая ад Саюзу за выкананую для яго працу, у тым ліку за прадажу на камісыйных падставах атрыманага ад яго тавару, за праведзеныя па яго даручэньпям загатоўкі збожжа і сыравіны. У графе 10—паказваецца падлік граф 2, 3, 5, 6, 7, 8 і 9 (графа 4 у падлік не ўваходзіць).

3. У графах 11, 12, 13, 14 і 15—паказваюцца тыя сумы, якія падлягаюць выключэньню з графы 10, як неабкладаемыя прампадаткам, пры гэтым акцызы і мытная пошліна паказваецца толькі ў тым выпадку, калі *сам коопэратыў* іх плаціў.

У графе 14 (іншыя) паказваецца тавар, ахвяраваны коопэратывам або не падлягаючы абкладаньню на падставе ільгот,—напр., зварот падкантрольных „Нарпіту“ сталовак, акрамя звароту па піву і табачным вырабам [1]), зварот па продажу кніг і г. д. (гл. арт. 27, 30 і іншыя пераліку ільгот па прампадатку, Інф. Бюл. БКС № 4, старонка 7—15).

4. На стар. 4-й заявы коопэратыў не запаўняе граф 1—5. У графе 6—паказваецца агульная сума, на якую паступіла ў коопэратыў тавараў па фактурнай каштоўнасьці іх.

5. Розьніца па кожнаму тавару паміж графою 10 і 15 пакажа абкладаемыя прампадаткам сумы звароту; дапасаваўшы да іх адпаведную стаўку (процант) прампадатку, устаноўленую ў расьпісаньні катэгорый для аграмаджанага сэктару гандлю з паніжэньнем яе на 0,2%, сам коопэратыў можа вылічыць суму авансу, якую ён павінен унесьці ў працягу 1928-29 г. у лік прампадатку за гэты год.

6. *Парадак і тэрміны выплаты гэтага авансу* паказаны ў арт. 3-м пастановы ЦВК і СНК СССР ад 10-VIII-28 г. (глядзі Інф. Бюл. БКС № 1, стар. 12).

7. Усе іншыя веды аб тым, які зварот коопэратыву падлягае абкладаньню, як павінна складацца заява і правярацца падатковым інспэктарам і падатковай комісіяй, можаце ўбачыць з арт. 8—9, 21—27 палаж. аб прампадатку ад 10-VIII-28 г. (глядзі Інф. Бюл. БКС № 2, стар. 17 і 18).

Старшыня Праўленьня БКС *Наўлянскі.*

Старшыня Белрабсэкцыі *Кумкес.* Юрысконсульт *Мароз.*

№ 14168, 30-XI-28 г.

[1]) На падставе распараджаньня НКФ СССР ад 19/XI-28 г., № 110, якое будзе надрукавана ў наступным нумары бюлетэню. у падкантрольных „Нарпіту“ коопэрацыйных сталоўках з 1928-29 абкладнога году абкладаецца прампадаткам зварот па водпуску піва і табачных вырабаў, у той час, як да гэтага часу абкладаўся толькі зварот па піву.

## Расписание отраслей промышленности и торговли по категориям ставок промналога по положению от 10/VIII-28 г.

**Категория I.**

**Ставки: обобществл. сектор—1,6; частный—2,15.**

1. Руды железные, марганцевые, медные и проч.
2. Камень, мрамор, азбест и проч.
3. Металлы не в деле.
4. Каменный уголь, антрацит, кокс, горючие сланцы, торф и асфальт.

**Категория II.**

**Ставки: обобществл. сектор—1,8; частный—2,35.**

5. Продукты нефтяной промышленности.

**Категория III.**

**Ставки: обобществл. сектор—2,0; частный—2,75.**

6. Предметы оборудования железнодорожного и водного транспорта: суда, паровозы, вагоны, рельсы и проч.
7. Предметы оборудования фабрик и заводов: машины и части их, станки, котлы и проч.
8. Сельско-хозяйственные машины, орудия и инвентарь (в том числе телеги).
9. Искусственные удобрения.
10. Семена.
11. Средства борьбы с вредителями.
12. Лесные строительные материалы.
13. Цемент, известь, кирпич и т. п. строительные материалы.
14. Железо сортовое, кровельное, скобяной товар и т. п. строительные материалы.
15. Стекло оконное и прочие строительные материалы.
16. Зерно и масличные семена.
17. Фураж.
18. Издательство произведений печати.

**Категория IV.**

**Ставки: обобществл. сектор—2,5; частный—3,15.**

19. Мука, крупа.
20. Хлеб печеный. 21. Соль.
22. Электрическая энергия.
23. Продукты лесной и деревообрабатывающей промышленности (в том числе: деготь, смола, скипидар), кроме особо поименованных.
24. Тара всякая, канаты, веревки, шпагат, брезент.
25. Погрузочно - разгрузочные предприятия.
26. Холодильники.

**Категория V.**

**Ставки: обобществл. сектор—2,8; частный—3,35.**

27. Книги, ноты.
28. Конторские и канцелярские принадлежности.

**Категория VI.**

**Ставки: обобществл. сектор—3,0; частный—3,35.**

29. Хлопок, лен и пенька.
30. Овощи и прочие первичные продукты земледелия, кроме указанных в п.п. 16, 17 и 29.
31. Первичные продукты скотоводства (живой скот, кожсырье, кишки, шерсть и проч.), кроме особо поименованных.
32. Первичные продукты птицеводства (птица, перо, пух), кроме яиц.
33. Первичные продукты пчеловодства.
34. Фабричные и заводские полуфабрикаты, суровье (пряжа, вата, сырец и лоскут), отбросы и угары.
35. Махорка-сырье и табак листовой.
36. Строительные работы.
37. Экспорт мехов.

**Категория VII.**

**Ставки: обобществл. сектор—3,2; частный—3,75.**

38. Предметы электротехники и радиотехники.
39. Дрова и древесный уголь.
40. Инструменты и прочие металлические изделия, кроме особо поименованных.
41. Мясо, птица битая, рыба, колбасные изделия и т. п.
42. Яйца, молоко, молочные продукты, жиры растительные и т. п.
43. Крахмал и патока. Консервы и прочие продовольственные продукты.

**Категория VIII.**

**Ставки: обобществл. сектор—3,4; частный—4,15.**

44. Бумага, обои, картон.
45. Типографии.
46. Продукты химической промышленности: основной, жировой,

коксо-бензольной, лакокрасочной и анилиновой.

47. Продукты фармацевтической промышленности. 48. Бани.

49. Охотничьи и рыболовные принадлежности.

50. Тряпье и кости.

**Категория IX.**

**Ставки: обобществл. сектор—3,8; частный—4,65.**

51. Сахар.

52. Чай и кофе.

53. Аптекарские товары и предметы санитарии и гигиены.

54. Махорка, кроме сырья.

**Категория X.**

**Ставки: обобществл. сектор—4,3; частный—5,15.**

55. Мануфактура.

56. Обувь (в том числе галоши), кожа выделанная и изделия из кожи. 57. Дичь и шкуры.

58. Фрукты и ягоды. 59. Спирт.

60. Предметы домашнего обихода (посуда металлическая, кухонные принадлежности, ножевой товар, мелкий инвентарь, лампы, щепной товар и проч.).

61. Стекло (кроме оконного), фаянс, фарфор и майолика.

62. Нитки.

**Категория XI.**

**Ставки: обобществл. сектор—4,8; частный—6,35.**

63. Овчина и козлина.

64. Белье, головные уборы и готовое платье (в том числе изделия из овчины и козлины).

65. Трикотаж.

66. Чайные лавки и заведения для потребления на месте кушания и напитков, кроме крепких.

67. Пароходные и железнодорожные буфеты.

68. Монтажные, ремонтные мастерские водопроводов, газового и электрического освещения, звонков и проч. 69. Мебель.

70. Резиновые изделия, кроме особо поименованных. 71. Спички.

72. Перевозочные и транспортные предприятия.

73. Хлебное вино (в том числе столовое). 74. Дрожжи.

75. Предметы спорта и развлечений. Музыкальные инструменты.

76. Непоименованные особо товары.

77. Непоименованные особо нетоварные предприятия.

**Категория XII.**

**Ставки: обобществл. сектор—6,0; частный—7,15.**

78. Кредитные учреждения (для всех операций, кроме товарно-торговых, за свой счет).

79. Экипажи, автомобили, велосипеды и принадлежности к ним (в том числе шины).

80. Технические конторы и бюро.

81. Кондитерские и гастрономические изделия.

82. Виноградные и плодовые вина. 83. Кино-театры.

**Категория XIII.**

**Ставки: обобществл. сектор—6,8; частный—8,15.**

84. Галантерея.

85. Бронзовые и никкелевые изделия, кроме посуды.

86. Пиво и мед.

87. Виноградная водка.

88. Табак, табачные изделия (кроме махорки) и гильзы.

89. Игральные карты.

**Категория XIV.**

**Ставки: обобществл. сектор—7,8; частный—11,15.**

90. Оптические товары.

91. Фотографии, фототипии и фотографические принадлежности.

92. Гостиницы, меблированные комнаты и постоялые дворы.

93. Похоронные бюро.

94. Отдача вещей на прокат.

95. Заведения для развлечений.

**Категория XV.**

**Ставки: обобществл. сектор—10,8; частный—13,15.**

96. Заведения для потребления на месте кушаний и напитков: а) с подачей из крепких напитков—пива, меда, а также вина крепостью не свыше 14 градусов; б) с продажей по этикетным ценам и в запечатанной посуде водки, водочных изделий и коньяка, а также вина, по вольным ценам.

97. Водочные изделия (наливки, настойки, ликеры, кроме указанных в п. 113) и коньяк.

98. Пушнина.

99. Меха (кроме указанных в п. 111) и изделия из них.

100. Зеркала, ковры, изваяния и картины.

101. Парфюмерия и косметика (кроме заграничных).

102. Художественные предметы, кроме указанных в п. 110.

103. Пивные.

104. Посреднические и экспедиторские предприятия и справочные конторы, а также комиссионные предприятия (кроме частных).

105. Аукционные камеры.

106. Модные мастерские.

**Категория XVI.**

**Ставки: обобществл. сектор—14,8; частный—17,15.**

107. Кафэ и заведения для потребления на месте кушаний и напитков с продажей по вольным ценам и произвольными мерами водки, водочных изделий и коньяка.

108. Биллиардные заведения.

109. Изделия из золота, платины, жемчуга, алмазов, бриллиантов, сапфиров, изумрудов, александритов, аметистов и топазов, кроме изделий технического характера.

110. Художественные вещи из серебра, слоновой кости, яшмы, малахита, оникса, перламутра, а также оригинальные изваяния и картины, кроме произведений современных мастеров—граждан Союза ССР, и антикварные вещи.

111. Выделанные меха: лисицы чернобурой, соболя, песца, горностая, камчатского бобра, каракульчы, шеншиля, котика и обезьяны и изделия из них.

112. Заграничные шелковые материи и бархат и изделия из них.

113. Заграничные сигары, табак и папиросы и ликеры.

114. Заграничные парфюмерия и косметика.

115. Тотализаторы.

Примечание 1. Производство товаров и продажа их облагается по одной и той же категории ставок.

2. Оптовая продажа государственными и кооперативными предприятиями (в том числе смешанными акционерными обществами с участием государственного и кооперативного капитала не ниже 50 проц.) сельско-хозяйственных машин и орудий, семян и средств борьбы с вредителями облагается по ставке 0,65.

3. Обороты частных промышленных предприятий облагаются по ставкам соответствующих категорий пониженным на 10 проц.

4. Обороты частно-владельческих мельниц, за исключением ветряных (независимо от числа поставов) и водяных или с механическими двигателями одно и двухпоставных, занимающихся переработкой зерна, скупленного частными лицами или заготовленного владельцами этих мельниц в целях перепродажи его в виде муки, облагаются:

а) по переработке чужого зерна по ставке XV категории;

б) по переработке зерна собственной заготовки по став ке XIII категории.

5. Обороты частных предприятий маслобойной промышленности по производству подсолнечного масла облагаются:

а) по переработке чужих семян по ставке XV категории.

б) по переработке семян собственной заготовки по ставке XIII категории.

6. Обороты частных торговых предприятий по реализации продукции мельниц и маслобойных заводов того же владельца облагаются по полуторной ставке XIII категории.

7. Обороты частных предприятий кожевенной промышленности облагаются:

а) по переработке чужого сырья по ставке XV категории;

б) по переработке сырья собственной заготовки по ставке XIV категории.

8. Обороты частных торговых предприятий по реализации продукции кожевенных заводов того же владельца облагаются по полуторной ставке XIV категории.

9. **Ставки обложения для потребительской кооперации понижаются на 0,2 проц.—согласно примечания 2-го к статье 10 Положения о промналоге от 10 августа 1928 года.**

10. Обороты кооперативных организаций по сбытовым операциям (подразделения 2, 3, 4 и 5 п. «б» ст. 7 Положения о промналоге от 10 августа 1928 г.), согласно примечания 1-го к статье 10 этого Положения, облагаются по особым ставкам, устанавливаемым СНК СССР.

*Утверждены Зам. НКФ М. Фрумкин. 2 ноября 1928 г. „Изв. НКФ СССР за 1928-92 г., № 5, приложение“.*

# НАША КОНСУЛЬТАЦЫЯ.

## Як аплачваюцца рабочыя і служачыя за час знаходжэньня іх у тэрчасьцях і на абучальных каротка-тэрміновых зборах.

*(Запытаньне Дняпросаюзу).*

Рабочыя і служачыя, якія знаходзяцца ў пераменным складзе тэрыторыяльных часьцей (у якасьці радавога або начальніцкага складу) пры прызыве іх на трохмесячнае абучэньне ў працягу **першага году іх вайсковай службы** на працягу гэтых трох месяцаў захоўваюць сваю пасаду і атрымліваюць ад наймальніка дапамогу ў разьмеры двухтыднёвага сярэдняга заработку, але-ж не захоўваюць заработку за час абучэньня (§ 29 і 30 Інстр. НКПрацы СССР ад 20/VII-27 г. № 138 у рэдакцыі 28 г. «Ізьв. НКПрацы за 1928 г. № 30-31).

Тыя-ж рабочыя і служачыя, пры прызыве іх на абучальныя і каротка-тэрміновыя зборы ў **наступныя гады**, атрымліваюць ад наймальніка за ўвесь час знахаджэньня іх на гэтых зборах дзьве трэцьціх часткі сярэдняга заработку і за імі захоўваецца іх пасада (§ 29 і 33 тэй-жа інструкцыі).

Рабочыя і служачыя, **якія праходзяць сапраўдную вайсковую службу пазавайсковым парадкам**, за час пэрыядычных навучальных збораў захоўваюць сваю пасаду і дзьве трэцьціх часткі сярэдняга заработку (§ 36 тэй жа інструкцыі).

---

Адказны рэдактар—**Оргкіраўніцтва БКС.**

Выдавец—**Белкоопсаюз.**

ЦАНА 30 кап.



Менск, друк. „БДВ". Заказ № 804—1000 экз. Галоўлітбел № 419.